# ЯКУБ КОЛАС

## ТОМ I

## ВЫПУСК ДРУГІ

БЕЛАРУСКАЕ
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

ЯКУБ КОЛАС
(ТАРАС ГУШЧА)

# ЗБОР ТВОРАЎ

З ПОРТРЭТАМ АЎТАРА
І КРЫТЫЧНА-БІОГРАФІЧНЫМ
НАРЫСАМ І. ЧАРЖЫНСКАГА

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

ЯКУБ КОЛАС
(ТАРАС ГУШЧА)

# ЗБОР ТВОРАЎ

## ТОМ ПЕРШЫ

*ВЫПУСК ДРУГІ*





БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК 1928

## НА РОСТАНКАХ

Ты скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрца жалем калыхаць?

Ня шумі ты, лес высокі,
Нудных песень не сьпявай,
Дзён шчасьлівых, дзён далёкіх
Ты мне, лес, не ўспамінай!

Ня відно мае дарогі
Горы, лес, балоты, гразь...
Колькі смутку і трывогі.
Ў гэты цяжкі, цёмны час!

Дзе-ж, дарога ты другая?
Я стаю адзін, адзін.
Ноч вакол ляжыць глухая,
Ці-ж то сьвет сышоўся ў клін?

Дык скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрца жалем калыхаць?

1907 г.

## ПАД ШУМ ВЕТРУ

Праляцела борзда лета,
Наша сьветлая пара.
На дарозе нашай вузкай,
Як раней, стаіць гара...

Скора, скора дуне холад,
Сьнег пасыпле з сівых хмар,
Зноў мароз падыдзе люты,
І клубком паваліць пар.

Разам з ветрам, з халадамі
Думак рой к нам наляціць,
Нудных думак, неспакойных,
Сэрца беднае сушыць.

Будуць ветры за вугламі
Выць і плакаць і стагнаць,
А ў той вечар, доўгі, цёмны,
Песьні ў коміне сьпяваць.

Бор стары завые нудна,
Зашуміць гальлём лаза.
Пад іх шум ня раз на сэрца,
Капне горкая сьляза.

1907 г.

## НЕ БЯДУЙ!

Не бядуй, што сонца нізка,
Што прыходзіць нудны дзень,
Не бядуй, што восень блізка,
І лягла на землю цень.

Не бядуй, што сьнег халодны
Скрые землю ад вачэй;
Не загіне край твой родны
У тэй цемені начэй!

Будзе час, і сьнег растане,
Прыдзе зноў да нас вясна,
Ціха з неба сонца гляне,
Ачуняе старана.

Не бядуй, што цяжка стала,
Жыць у вечнай цемнаце,
Што нас доля вечна гнала,
Што жывём у беднаце.

Не бядуй, што зьвісьлі хмары,
Што нам сонца ня відаць,
Не бядуй, што ў ноч пажары
Сталі неба залі́ваць,—

Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Ўсё, што душыць нас і гне.
Вер, брат,—жыцьце залатое
Будзе ў нашай старане.

## НЯГОДА

*(А. Ўласаў)*

Мы чакалі нецярпліва
Лета, цёплых, ясных дзён,
Каб буяла наша ніва,
Ня глушыў яе драсён.

Хмурна-ж, наша хмурна лета,
Сьцелюць хмары валакно,
Сонцам поле не сагрэта,
Дробны дождж сячэ ў вакно.

Затоплена сенажатка—
Верх травы адно відаць,
Збожжа ў полі гіне, братка,
Няма сілы працаваць.

І Ільля ўжо недалёка
Жаць пара, пара касіць.
Дарма ў неба глядзіць вока—
Хмар густых ім не прабіць.

Перакідаем, брат, лета
І сяк-так перажывём.
Час наш будзе—вер у гэта—
З верхам працу мы зьбяром.

1908 г.

*
* *

Толькі стогне зямля,
Толькі вецер шуміць.
Ў нашым бедным краі
Ўсюды ночка ляжыць.

Што-ж? сьцяліся, туман,
Покі восень стаіць:
Восень сьвята тваё,
Усюды цемень ляжыць.

Не маўчы-ж ты, сава,
Ў цёмным лесе гукай.
Ведай: ночка—ня год,
Заварушыцца гай...

## СЯБРОМ

Гэй, сябры мае!
Дзе вы, родныя?
Віхры лютыя,
Непагодныя

Разагналі вас
Ва ўсе стораны,
І дарогі вам
Пазавораны.

Сьцежкі вузкія.
Палыном зарасьлі,
І нічога вам
Ня відно ў далі.

Няма хат у вас,
Ні вуглоў сваіх,
І змоўк голас ваш,
І ваш сьмех заціх.

А за што, за што
Вам ганьбу далі?
За што гоняць вас
Прэч з свае зямлі?



Эх, сябры-браты!
Самі знаеце:
Агню палкага
Іскры маеце.

Ня тушэце-ж вы
Той агонь сьвяты,
Асьвятляйце ім
Родны край, куты...

Што-ж? Няхай віхры
Надрываюцца,
Няхай ворагі
Насьміхаюцца.

Хоць на дзераве
Зжоўкла ўся ліства,—
Вясна вярнецца,
Адрасьце трава.

1908 г.

## ЛІПЫ СТАРЫЯ

Ліпы старыя шумяць за сьцяною,
Жаласна, глуха шумяць,
Смутна ківаюць, трасуць галавою,
Толькі галіны скрыпяць.

Пышны убор іх, лісты, паэрываны,
Вецер разьвеяў, разьнёс,
Нудна і ім за астрожным парканам,
Цяжка ім зносіць мароз.

Плачуць гаротныя ліпы старыя,
Плачуць на долю сваю:
Пышна расьлі мы, цьвілі, маладыя,
Добра было у гаю.

Вольныя птушкі вакол шчабяталі,
Божыя пчолкі гулі,
Тоўстыя вязы ад бур нас хавалі,
Сеткі дубы нам пялі.

Белыя хмаркі над намі гулялі,
Беглі ў няведамы край,
Чыстыя росы, як срэба блішчалі,
Гоманам поўніўся гай...

Там-бы хацелі расьці, красавацца,
Дол дзе капае ральнік,
Родную песьню дзе ціха сьпявае
Сын Беларусі, мужык.

Нас перанесьлі на глебу чужую—
Сьвету, прастору няма.
Ўсе нас забылі, ніхто нас ня чуе,
Чуе нас толькі турма.

1908 г.

## ПАД СЬПЕЎ ВЕТРУ

Вее вецер, сьвішча ў коміне,
Горка плача, надрываецца,
І цяпер мне тая музыка,
Як жывая, ўспамінаецца.

Помню хатку я старэнькую,
Што між лесу загубілася,
Каля хаты вярба ніцая
Да страхі гальлём схілілася.

Ночка зімняя, халодная...
Вецер дзьме, ня сунімаецца,
А над лесам гоман-шум густы
Гудам-гулам разьліваецца.

А ў каміне вецер песенькі
Расьсьпявае тонкім голасам
І па стрэсе сьнегам шорхае,
Нібы жыта сьпелым коласам,

То нясьмела ў дзьверы стукне ён,
Як-бы ў хату, бедны, просіцца,
То пад вакаьнем закруціцца
Ды так горка разгалосіцца!

І прыціхне на хвілiначку,
Сілы-моцы набіраецца.
Ные сэрца, ные-смуцiцца,
На сьпеў ветру адзываецца.

Помню, помню сваю хатачку,
Маю родную, далёкую,
Як успомню—жаль агортвае
Маю душу адзінокую.

1908 г.

## НА МЯЖЫ

(Перад новым 1909 г.)

Бывай здароў, мой год старэнькі!
Ў маіх ты думках будзеш жыць
І многа будзеш майму сэрцу
Ў мінуты жалю гаварыць.

Я буду помніць, доўга помніць
Сваё бадзяньне ў гэты год,
Свае надзеі і сумненьні
За родны край, за свой народ.

І тых людзей, што шлі са мною,
Хто зваў да працы, дух будзіў,
Хто весяліў у часе смутку,
Каго я шчыра палюбіў.

Дык будзь здароў, моў год старэнькі!
Ў маёй душы ты будзеш жыць
І многа будзеш майму сэрцу
Ў мінуту жалю гаварыць.

1908 г.

## СЯБРОМ—ВЫГНАНЬНІКАМ

Гэй, вы, смутныя,
Гэй, вы, бедныя,
Мае мілыя
Сябры-згнаньнікі!

Ці вы сіраты
У сям'і людзкой,
Што глядзяць на вас
Вокам ворагаў?

Ці разбоем вы
Даставалі хлеб,
Што караюць вас
Горш за злодзеяў?

Або ў вас няма
Сілы, розуму,
Што прытулкі вам
Пазачынены.

Ці то сэрца ў вас
Цьвярдзей каменя,
Што ад вас браты
Адракаюцца.

Не! душа ў вас,
Сэрца—добрае,
Думкі чыстыя,
Мысьлі ясныя!

Толькі вам няма
Долі-радасьці,
Сіла цёмная
Вось прыціснула.

Гэй, выгнаньнікі,
Сябры любыя,
Да канца, браты,
Будзьма цьвёрдымі.

1908 г.

## СЯБРУ

Эх, і бедна-ж у нас!
Ох, вялікая глуш!
Брат! працуй, не чакай,
Цьму людзкую ты зруш.

Восень, доўгая ноч
Над народам вісіць,
З кожнай хаты нуда,
Недастача глядзіць.

З кожных грудзяй людзкіх
Хоча вырвацца крык,
Стогн збалелай душы
Бедакоў-гарамык.

Вочы, поўныя дум,
Ў дол маўкліва глядзяць,
Дзе надзеі даўно
Іх спрадвеку ляжаць.

Раскатурхай народ,
Сьвет яму разьвяжы
І за долю яго
Працу ўсю прылажы.

1909 г.

## БЕЗДАРАЖ

Хмурна. Глуха. Цьма пануе.
Сьлед у полі загубіўся.
Што-ж спужаўся? што стаіўся?
Ці што вуха тваё чуе?

Сьцішна. Пуста. Адзінока...
Сьвет закрыла цьма густая.
Паваротка тут крутая,
Ня змыліся-ж, маё вока!

Неба ў хмарах. Даль імглiста,
А дарогі скрыжаваны.
Што-ж там сьвеціць праз туманы?..
Стой, ня ідзі: то—бляск нячысты!

Ціш і безьлюдзь,—ну, страхоцьце!
Ані гуку, ані зыку!
Толькі сьвіст у лесе дзікі
Ды хмар сунецца лахмоцьце.

Мрок стаіўся нярухома.
Пад нагамі лом, каменьне.
Вось выпадак, вось здарэньне.
І куды йсьці—невядома.

Ня пужайся, пойдзем далей—
Ноч мінецца, змоўкнуць совы,
Дзень спаткаць будзьма гатовы!
Дык наперад, брат, павалім!

1909 г.

# У ДАРОЗЕ

Між узгоркаў і курганаў
Сьцежка вузкая ляжыць,
Даль нямая з-за туманаў
Сірацінаю глядзіць.

Лес акрыўся тонкай тканьню,
Сіняй дужкаю лёг гай,
За крывой далёкай граньню
Тоне ў бляску яго край.

Цішыня ва ўсім раздольлі,
Ўся заліта сонцам даль.
І сьціскае душу болем,
Ня то смутак, ня то жаль.

Ўецца сьцежка прада мною,
У шырокі сьвет бяжыць,
Дзе зьвіваецца зьмяёю,
Дзе як стужачка ляжыць.

А я далей ўсё дыбаю
Між узгоркаў і раўнін.
І мне шэпча жыта з краю:
„Ты адзін, адзін, адзін!“.

1909 г.

## ДЗЕ ВЫ?

Быў у нас хаўрус,
　　Крэпка зьвязаны,
Дружбай моцнаю
　　Падпяразаны.

Жыў ён думкамі
　　І надзеямі
Сьмела ў бойісьці
　　З ліхадзеямі,

З ноччу цёмнаю,
　　Беспрасьветнаю,
З доляй горкаю,
　　Няпрыветнаю,

Каб расчынен быў
　　Сьвет людзкім вачам,
Каб жылося лепш,
　　Весялей людзям,

Каб ярмі іх
　　Былі зломаны, —
Крэпкі быў саюз,
　　Дружбай скованы.

Песьні вольныя
Разьліваліся,
Горы, лес, лугі
Адклікаліся,

Ды завыў, загуў
Вецер з поўначы,
Дзьмухнуў холадам
І пагрозаю.

Ўсё схавалася,
Затаілася,
Да зямлі ніжэй
Нахілілася.

Ўсё растрос-разьнёс,
Як мятлою зьмёў,
Ня мінуў і вас
Ён, маіх сяброў.

Распаўзьліся вы,
Пахаваліся,
І ад думак сваіх
Адцураліся.

З таго часу я
Адзін смычуся,
ніяк я вас
Не даклічуся!

1909 г.

* * *

Я помню быў і я багаты.
Я жыў, як багач, у дабры,
І ня міналі мае хаты
Мае найлепшыя сябры.

Мяне дзяўчаты ня цуралісь,
Плялі вяночкі з красак мне,
І мне шчасьліва так сьмяялісь,
Ды толькі-ж то было... у сьне.

1909 г.

## У ЦЕМРЫ

Падзівіся, браток,
Што за цемень вакруг!
Ў хмары месяц уплыў,
І бляск зорак патух.

Ня чуваць галасоў
Сьвежых, вольных, жывых.
Толькі совы крычаць
Па трушчобах глухіх.

Ім уторыць пугач—
Цёмны жыхар дупла.
Падзівіся, браток,
Што за цемень—імгла!

Толькі зрэдка у цьме
Бляск пужліва мігне,
Быццам воўк з-за кустоў
Злосным вокам зірне.

Гэты бляск—не агонь.
Гэта—фальш, гэта—зман...
Падзівіся, браток,
Як гусьцее туман!

Эх, і цёмна-ж у нас—
І дарожак ня знаць,
А прасьвету нідзе
Ня відаць, ня відаць!

Ў хмары месяц зашоў,
І бляск зорны патух,
Падзівіся-ж, браток,
Што за цемра вакруг!

Ды ня бойся, мой брат,
Гэтай жудкай цішы
І свайго ты агню
Ня тушы, ня тушы!

Пройдзе ноч, згіне цьма,
Непраглядны мрок-цень,
Змоўкнуць совы ў дуплох,
Як разьвідніцца дзень.

1910 г.

## НА ПЕРАЛОМЕ

Дні бягуць ды бягуць,
Вянуць краскі ў палёх,
Жоўкне лісьце, трава,
Моўкне сьпеў па лясох.

І часьцей ды часьцей
Хмурыць неба свой твар.
Рэдка сонца глядзіць
З-за туманаў і хмар.

Азірнешся вакол—
Глуш, маркота і ціш,
І з нудою на ўсё,
З горкім смуткам глядзіш.

І ня ведаеш сам,
Чаго жаль спанаваў,
Як-бы часьць самаго
Ты навек пахаваў...

Дні праходзяць, бягуць,
Карацеюць яны.
З кожным днём далей мы
Ад жыцьця, ад вясны.

1910 г.

## АРОЛ

Над смужнай раўнінай высока-высока
Разьняў свае крыльлі арол адзінокі

І вокам празорным ён даль азірае
І гучныя крыкі над полем раняе.

А поле замлела, ляжыць у тумане
У покрыўцы смужнай, бы ў цёмнай сутане

Свая, відаць, думка аб чымся гаруе,
І крыкаў арліных нізіна ня чуе.

1910 г.

## ПЯСЬНЯР

Кажуць людзі: „што ты смутны?
Што сьпяваеш ты пра гора?
Твае песьні—стогн пакутны,
Сьлёзы ветру на прасторы!

Ты злажы нам песьню волі,
Песьняй шчасьця залівайся,
Ціхім сьпевам нівы ў полі
Ў струнах сэрца адклікайся,

Каб на нас вясна дыхала,
Грэла душу цяплынёю,
Каб нам сэрца сагравала
Ціхім шчасьцем, дабратою“.

Ой, вы, людзі! няма-ж волі:
Скуты мысьлі ланцугамі.
Пусты нівы нашы ў полі,
Злосны віхар дзьме над намі!

Ці-ж я сэрцам не балею?
Ці-ж мне смутак лёгка даўся?
Я сьпяваю, як умею,
Я пра радасьць пець ня здаўся.

1910 г.

* * *

Дзе-б ні быў я, што-б ні думаў,—
Ты ўсюды са мною
І мне сьвеціш у тэй цемры
Яснаю зарою,

А ў часіны злой нядолі
Смутак разганяеш
Тугу, гора і журботу
Ты мне сунімаеш.

Толькі-ж леглі паміж намі
Берагі крутыя,
Нам пуцінкі завалілі
Камяні ліхія...

Згодна ў полі ўдоўж дарогі
Каляінкі ўюцца,
Ды ніколі між сабою
Яны не сальлюцца.

1910 г.

## НА РАЗДАРОЖЖЫ

Пры шляху шырокім,
Дзе стаіць камора,
Я на сьвет радзіўся
Пад глухі шум бору,
Познаю парою,
Восеньню гнілою.

Па шляху тым бітым
І удзень і ўночы
Пешкі і з вазамі
Валіць люд рабочы,
Бы яго хто гоніць,
Аж той шлях гамоніць.

Ў розныя старонкі
Каля той каморы
Распаўзьліся сьцежак
Шэрыя узоры—
Вузкія, глухія
Сьцежачкі крывыя.

І мая, бы восень,
Доля невясёла,

І куды ні гляну—
Глуха навакола,
Смутна аддаленьне,
Хмызьнякі, каменьне...

І мяне людзкая
Хваля падхапіла
І ў глыбокім віры
Моцна закруціла
І нясе з сабою
Цяжкаю ступою.

Толькі-ж не па шляху
Носяць мяне ногі,—
Вузкі мае сьцежкі,
Зарасьлі дарогі.
Я іду-дыбаю,
А куды? ня знаю!

1911 г.

## НА КРЫЖОВЫХ ДАРОГАХ

На пагорку ў чыстым полі
Крыж стаіць убогі,
Там і тут жаўцеюць ролі,
Ў сьвет бягуць дарогі.

Даль раскрылася шырока
З гэтага узгорка.
Ціха ў полі, адзінока,
Штось на сэрцы горка.

Я стаю і аглядаю
Горак рад убогі,
А куды ісьці,—ня знаю,
Не ўлаўлю дарогі.

Дагарае дзень. Зьмярканьне
Ахапляе далі.
Калі-ж скончыцца блуканьне
Ў бездарожных хвалях?

Вечар немы, бездарадны
Крочыць з пад нізіны...
Хоць-бы голас дзе ўспагадны,
Хоць-бы гук адзіны!

1911 г.

* * *

Эй, скажы мне, небарача,
Ты, каго ў ярме трымаюць,
Чыё жыцьце папіхаюць:
Сам гібееш, доля плача,
Ва ўсім чысьценка нястача,

Сееш многа ты і дбала,
Хоць скупое тваё жніва,
Адкажы ты мне праўдзіва:
Што цябе тут прыкавала?
Ці табе дарожак мала,

Або сьвет тут зачыніўся?
Ці ты глух на папіханкі?
Сьвецяць рэбры скрозь катанкі,
А праз шапку чуб прабіўся.
Ці ты век цярпець згадзіўся?

Ці ня чуў аб лепшай долі?
— Ой, даўно-б я ўсё пакінуў,
Толькі-ж многа сьлёз я лінуў,
Выліў поту ў тыя ролі
Дзе ўзыходзяць песьні болю.

Дык няхай сьвет хоць трасецца,—
Я тут вырас, тут і згіну,
А разорак тых ня кіну,
Дзе мой смутак, жаль снуецца,
Дзе мне шчасьце не даецца,

Бо я цьвёрда веру ў тое,
Што наш засеў ў полі дзікім
Гневам вырасьце вялікім
І затопіць усё злое,
Усё няшчасьце векавое.

1912 г.

## ДЗЯЎЧЫНЕ

Не кажы, што злыя людзі
 І што сьвет паганы:
Сэрца крыўду ўсю забудзе,
 Час загоіць раны.

Тыя раны, што зладзеі
 Сэрцу прычынілі,
Тыя думкі і надзеі,
 Што ў табе пабілі.

Да ці-ж варты баламуты,
 Каб твой твар дзявочы
Засьцілаўся ценем смуты
 І тускнелі вочы?

Пройдзе ўсё, перажывецца,
 Вер мне, дарагая!
Будзе час—ускалыхнецца
 Сэрца і ўзыграе.

А ў душы вясна настане,
 Сэрца зноў палюбіць.
Прыдзе доля, ў вочкі гляне,
 Шчыра прыгалубіць.

Не кажы-ж, што злыя людзі
І што сьвет паганы:
Сэрца смутак перабудзе,
Час загоіць раны.

1912 г.

## УВОСЕНЬ

З узгорка ў лагчынку дарожка зьбягае.
Дубы наабапал стаяць.
А хвалі крынічныя—хто іх там знае—
Аб чымся, знаць, важным шумяць.

І хвоі-суседкі і смутныя ёлкі,
Бы ўдовы, стаўпіліся тут:
Даведацца хочуць і травы і зёлкі
Навін, што прышлі ў гэты кут.

І ўсе неспакойны і ўсе засмучоны,
Бы нечага боязна ўсім,
А вецер-задзіра, гудзе, як шалёны,
І вые над лесам пустым.

Хвалююцца дрэвы, а красачкі ў скрусе
Зямлі адбіваюць паклон.
„Ня бойцеся“ з неба гукаюць ім гусі:
„Ня вечны зімовы палон...“

З узгорка ў лагчыну шыбуе дарога,
Стаяць наабапал дубы.
Між дрэваў і красак пануе трывога,
І цені снуюцца журбы.

1914 г.

## НА РАЗЬВІТАНЬНІ

Вечарэла і цішала,
І гушчалі цені.
Поле моўчкі пазірала,
Лес—у задуменьні.

Той стары лес, праз каторы
Шла наша дарога,
А над намі, на прасторы
Вольнага разлогу,

Леглі хмаркі самавіта
Доўгаю градою.
Смуткам даль была спавіта,
Як мы шлі з табою.

Ўдоўж дарогі ў рад стаялі
Стромкія хваіны.
Не гайдаліся, маўчалі
Лапы іх, галіны.

Пастаялі, разьвіталісь
Мы з табою ў лесе,
Разышліся і схавалісь
Мы ў густым навесе

Маладых клін і хвояў
      І бяроз пахучых.
Жаль расстаньня сэрца кроіў,
      Горкі жаль, пякучы.

Я спыніўся. Сэрца млела
      Сьцішна стала ў лесе,
Толькі лісьце шапацела,
      Як той дождж па стрэсе

Ў вечар восені пастылы,
      Ў мрок спавіты шэры.
Як зьнікаў твой вобраз мілы,
      Дарагі бяз меры.

1915 г.

# ПАД НОВЫ ГОД

(1914 г.)

Ноч глухая, цьма, завея,
Ня відно і сьвету.
Толькі сьнег адзін бялее,
Ў шэрань лес адзеты.

Ні праезду, ні праходу,
Белы пыл у полі,
Як-бы тут дарожак з роду
Ня было ніколі.

Сьвішча, плача і галосіць,
Вые завіруха.
Хаты, гумны,—ўсё заносіць
Гурбамі наглуха.

Цісьне, крэпіць халадзішча,
Проста ліпнуць вочы.
Божа, што тут за ігрышча,
За сьмех патарочы!

А хто ходзіць полем-логам
Ў сьнезе па калені?
На пакуту, бачна, богам
Выгнаны два цені.

Чаго ходзяць? што шукаюць
Сярод цьмы-нягоды?
Гэта ходзяць, азіраюць
Божы сьвет два годы.

У старога за плячамі
Мех стары трасецца,
Малады год пад дарамі
Ажно крэхча, гнецца.

— Фу, мароз які пякучы —
У ваччу іскрыцца!
Мерзнуць ногі праз анучы,
Нос гатоў зваліцца!

Кажа новы год старому:
— Дык спыні шум буры —
Мо пляцецца хто дадому
Да свае пячуры,

Каб спаткаць мяне пачэсна,
Як вядзецца ў родзе,
З жонкай, з дзеткамі сумесна,
У ладу і згодзе.

Цяжка бедным і пахілым,
Зжалься над народам!
Я хачу быць для ўсіх мілым
Добрым новым годам:

Усьміхнуўся, ўзьняўшы плечы,
Год стары на гэта:
— Ты гаворыш не дарэчы,
Бо ня знаеш сьвету.

Слухай, дружа, і вучыся—
Я ўжо—госьць на сьвеце,
Ледзь хаджу я, трасучыся,
Ня жыхар я—сьмецьце!

Перабыў свой час і—квіта,
Ды я досьвед маю
І ў апошні раз пабыту
Слухай, што параю:

Калі хочаш, ягамосьцю,
Ў памяці застацца,
Ўежся людзям добра ў косьці,
Хоць злым будзеш звацца...

— Што пляцеш, пустапарожны?!
Проста слухаць нудна:
Добры год больш помніць кожны!
— Гм! згадзіцца трудна.—

Заспрачаліся, як дзеці,
Блазан і старое.
Што жыве даўжэй на сьвеце:
Добрае ці злое?

Гоман, крык, бы зьвёў ліхі іх,
Проста, чуць ня б'юцца.
Толькі торбы і мяхі іх
Ікіі трасуцца.

— Ша!—сказаў стары—даволі!
Ты да спрэчак ласы.
Мы-ж ня згодзімся ніколі
Запытаем часы.

Змоўклі. Ідуць. Лес прад імі
Ўстаў сьцяной магутнай,
Хвоі лапамі старымі
Б'юцца ў песьні смутнай.

І гудуць дубы нястройна,
Грозна жараламі,
Лес трасецца неспакойна,
Гойдае камлямі.

І чым далей, лес дзічэе,
Неба закрывае,
Нават вецер там ня вее.
Пушча—страх якая!

— Станьма тут,—стары гаворыць.
Глуха на палянцы.
Ціха дрэвы штось гутораць,
Веку выхаванцы.

Ціха ходзяць іх макушкі
Над палянкай з краю.
— Эй, вы, часы, божы служкі!
Я вас выклікаю!

Крыкнуў год стары, і дзіва:
З-за камлёў драўляных,
Нібы дым, ўстае маўкліва
Рад цянёў нязнаных!

Вышлі цені на палянку.
Ўсе пад нумарамі.
У беласьнежную катанку
Ўлезшы з галавамі.

На адных, бы кроў, гарэлі
Знакі агнявыя,
А з другіх чуць-чуць глядзелі
Напісы сьляпыя.

Год стары ўстае прад імі
І кажа ўладарна:
— Станьце, годы злыя, з злымі,
Хто ня згінуў марна!

І вы, добрыя гадочкі,
Вечнай праўды стражы,
Станьце бліжай у радочкі.
Няхай кожны скажа

Ці зьвялася, ці пануе
Памяць ваша ў сьвеце,
Як кахае, як шануе
Вас патомства-дзеці!—

Так сказаў стары, і годы,
Добрыя і злыя,
Замільгалі, бы ў нягоды
Лісьці залатыя.

Годы з напісам чырвоным
Паасобна сталі,
Множствам страшным, нязьлічоным
Пушчу запаўнялі.

А іх напісы гарэлі
Слупам агнявістым,
Ад іх неба чырванела,
Пушча з сьнегам чыстым.

Годы добрыя нясьметна
Сталі ўсе па чыну,
Цьмяна, бледна, чуць прыметна,
Зьліўшыся ў раўніну.

І выходзіць цень бясшумна,
Глуха дакладае:
— Я напоўніў людзям гумны,
Бо я—год Раджаю.

Людзі трохі падабрэлі.
Ураджай хвалілі.
Як дабро-ж мае паелі,
Дык мяне забылі.

Паліняла і зьвялася
Памяць між народаў.—
Так сказаўшы, адышлася
Цень Раджаю-году.

— А я голадам вядомы.
Я—год Галадоўлі.
Я спустошыў людзям долы,
Гумны і будоўлі.

Мерлі людзі і жывёла,
Як з атруты мухі.
Счысьціў я усё да гола,
Нарабіў разрухі.

А мяне дагэтуль людзі
Часта ўспамінаюць.
Так было і гэтак будзе:
Зла не забываюць.—

Сказаў гэтак цень з крывавым
Агнявістым знакам.
— Я быў згодаю, ласкавым,
Рассыпаўся макам,

Каб лагодзіць, жыць у згодзе.
Згода панавала,
Быў парадак у народзе,
Царствы сябравалі.

А прайшоў мой час,—як сьмецьце
Зьнішчылася памяць
Ці быў я, ці не, на сьвеце,
Нават і ня ўцямяць.

— Калатню я даў народу,
Меч прынёс, пажары,
Я забраў яго свабоду,
Я—год Помсты, Кары.

Я растрос зямлю дазваньня,
Я быў год няшчасны,
Аба мне-ж апавяданьні
Сьвежы, чоткі, ясны.

— А я сеяў зерні знаньня,
Праўды разуменьня,
Волі, радасьці жаданьне,—
Я—год Прасьвятленьня.

Мой агонь гарыць і зьяе;
Сэрцы людзям грэе.
Аба мне слых ня ўмірае
І жыве надзея.

— Я мрок сеяў у народзе,
Зацямняў галовы...
— Сьціхні голас часаў! годзі!
Год прамовіў новы.

І ўсё змоўкла, ціха стала,
Цені ўсе застылі,
Толькі пушча задрыжала,
Дрэвы ўзгаманілі.

І стары год стаўся ценем.
Поўнач падступала
І пячаці задуменьня
На ўсё накладала.

— Цені, згіньце! Я ўладарны
Гаспадар над вамі!
Мой прышоў час!—Цені марна
Зьніклі між камлямі.

Змоўкла пушча, сьціхла бура,
Зоры замігалі.
І зямля і лес пануры
Новы год віталі.

І ўсё поглядам пытае
Маладога году:
Што нясе нам, чым спаткае
Новая прыгода.

1913 г.

* * *

Я хачу аб табе
З кім хоць слоўка сказаць,
Сэрца гора, тугу
І сумненьні прагнаць.

Але толькі-ж няма
З кім мне сум падзяліць,
І я мушу адзін
Перажыць, перабыць.

1914 г.

## ДЗЬВЕ ДАРОГІ

Над балотам, над лясамі
Жураўлі крычаць,
Бы сваімі галасамі
Хочуць вестку даць,

Што цяпло мінецца скора,
І заглухне бор,
У полі сіняга прастору
Ты ня ўгледзіш зор,

Што нагоніць хмар вятруга,
Наплыве туман.
І абніме гора-туга
Поле, лес, курган.

Разам з вамі вольны вырай,
Палячу і я,
Толькі-ж к сьмерці стане бліжай
Сьцежка там мая.

Ляціце вы ў край паўднёвы
Зіму пераждаць,
Каб на весну песьняй новай
Родны кут вітаць.

А я еду, госьці лета,
У той крывавы вір,
Дзе вар'яцтва ўсяго сьвету
Свой спраўляе пір.

1917 г.

## НА ЧУЖЫНЕ

Час праходзіць, жыцьце гіне
Ў талачэчы на чужыне
За кавалак хлеба,

А куды яшчэ закіне
Доля-гора ў злой часіне?
Адкажы ты, неба!

Ды сказаць яно ня хоча,
Толькі вецер зарагоча
І зарве жалобна

Ды ўсё гоніць хмар валокны,
І бубніць, бубніць у вокны
Дождж халодны, дробны.

1919 г.

## У ІМГЛЕ

Дрот на слупе гучна звоніць.
Слуп сакоча і дрыжыць...
Эх, аб чым, аб чым гамоніць
Гэта кованая ніць.

Што сталёваю асновай
Абвіла зямлі канцы?
Што сваёю звонкай мовай
Кажуць гэтыя ганцы?

І якія весткі людзям,
Краю нашаму нясуць?
Ці мы будзем ці ня будзем
Пад чужынцам шыі гнуць?

Ці ўздужае стаць на ногі
У прах зьнішчаны наш край?..
Сець сталёва ўздоўж дарогі!
Ты адказ мне ясны дай!..

Дрот гудзе, зьвініць, сакоча.
Слуп за слупам ў даль бяжыць.
Доля горкая, сіроча,
Як і тая даль маўчыць.

І навісла зноў бяз шуму
Няруxомая імгла,
І цяжэрная задума
Над балотамі лягла.

1919 г.

## КРЫЖ

На стыку трох дарог пры полі,
Дзе пачынаецца сяло,
Стаіць адзнака цяжкай долі,
Схіліўшы пахмурна чало

Павязка стлела і спаўзае,
А крыж асунуўся на плот.
Як-бы ён горача жадае
З нядолі вызваліць народ.

Няхай-жа гэты знак пакуты,
Калі рассыплецца у прах,
Навекі зьніме тыя путы,
Што накаваў крывавы жах.

1921 г.

## ЗВОН ШЫБАЎ

Ноч маўкліва. Цёмна, глуха.
Прылажыла чутка вуха
За акном старая вішня,
Штось прамовіць—шу-шу-шу!
    І заціхне, бы баіцца
        Памыліцца
І сказаць што-небудзь лішне.
Я лажусь, агонь тушу.

Неба хмурна, няпрыветна.
Зрэдка ветрык чуць прыметна
Скулься ціха набягае
І галінкі згайдане
    І зьнікае ці дзесь далей
        Бяжыць хваляй
Байку-тайнасьць ціха бае
Анямелай цішыне.

У хаце ціха, нават жудка.
Ловіць зыкі вуха пудка:
Звоніць шыба штось жалобна—
Дррон-дррон! ціха бразгаціць.

Чуць счакаўшы, новым звонам,
Ніэшым тонам
Такжа нудна, такжа дробна
Шыбка новая зьвініць.

Няма ветру, ўсюды ціха,
Шыбы-ж звоняць—што за ліха?
Хто ў іх стукнуў? хто чапае?
Ці то знак хто хоча даць,
Што згубілі мы дарогу,
Б'е трывогу,
Ходзіць, перасьцерагае
І накладвае пячаць

На шляхі, дарогі тыя,
Дзе крыжы згнілі старыя,
Ці зумыслу пазьнімалі,
Як аджыўшыя свой час.
Хто такі ён? Невядомы,
Незнаёмы,
А мо' дзе і сустракалі,
Мо' з ім бачыліся з раз.

І так сьцішна, чагось смутна,
Шкло сьпявае ўсё пакутна,
Толькі-ж думка не згадае,
Што гуторыць гэты сьпеў,
І ня хоча супыніцца,
Пагадзіцца
З тым, што сэнсу ня ўчытае:
Ці то жалаба ці гнеў?

Шыбы звоняць і сьпяваюць,
Песьню скончаць, зачынаюць,
То павысяць яны голас,
То замлеюць, то замруць.
Жаль ў іх песьні сэрца чуе
І гаруе.
Шклечка-ж звоніць ўсё раз-по-раз
Не дае ўсё мне заснуць.

1921 г.

## ЦЕНІ-СТРАХІ

Вечар блізка, жар спадае.
З цёмных шчылін хтось нязнаны
Цені-страхі выклікае,
Штось ім шэпча, штось ківае,
Ды таемна, няўчытана.

Сьмех вясёлы зьбег няждана
З таго лесу і пагорку,
З тых лагчынак і кургану.
Смуткам поле чуць заткана,
Смутак ходзіць панадворку.

Пуцявінай праз разорку
Скача мышка палахліва
І шукае сваю норку
На мяжы каля аторку
І зьнікае дзесь маўкліва.

Я іду, гляджу—і дзіва:
Ці раней таго ня бачыў?
Ўсюды стала нейк тужліва
І трывожна-баязьліва!
Зьмену гэту я зазначыў.

Хто-ж той выраз перайначыў?
Я ня сьцямлю і пытаю
Ды пытаньнем азадачыў
Ўсіх, каго я тут ні бачыў,
Ўсіх, каго ні запытаю.

„Чапля! чапля!“ стой!—гукаю:
„Ты ня ведаеш, скажы ты,
Ці я сам страхі шукаю,
Сам іх вобразы ствараю,
Ці тым страхам ўсе спавіты?

— Ня пытайся: я ня знаю.—
Тры вароны ляцяць з гаю
Цяжка крыльлі іх мігаюць.
— Гэй, спыніся! справу маю—
Штось у вас я запытаю...

— Мы ня знаем! Не, ня знаю!—
Закрычалі і зьнікаюць.

Насустрэч старцы дыбаюць.
— Скуль вы, людзі? Хто такія?
Воч старцы ня падымаюць
Ўсе маўклівы, разважаюць.
— Мы—сьляпыя! Мы—глухія!

Цені сталі больш густыя,
Многалучны, нязьлічоны,
Многазначны, хоць пустыя,
Вельмі страшны, бо нямыя,
Пад пячацьцю ўсе замкнёны.

Лес, папары і загоны
Твар выразны свой хаваюць.
        Дзесь далёка стогнуць звоны,
Дзесь у лесе плач шалёны—
        Совы дзень свой зачынаюць.

Цені-страхі выпаўзаюць,
Іх ня бачыш,—прачуваеш,
        Штось чаруюць, заклінаюць
І таемна пагражаюць.
        Чым? Бяда ў тым, што ня знаеш.

1921 г.

## ПОКЛІЧ

Гэй, чулыя сэрцам! гэй, душы жывыя!
Ідзеце вы долю каваць!
Ёсьць у вас сілы, яшчэ маладыя,
Ёсьць у вас крыльлі лятаць!

Але сьцеражыся: балотная бросьня
Іх кожную хвілю сачыць,
А гнільлю зацягне—душа не ўваскрэсьне,
Ўгару над зямлёй не ўзьляціць.

Вы чуеце хваляў жывых набяганьне?
Прыгледзьцеся: новыя дні
На вас пазіраюць у іскрах сьвітаньня,
І сьвецяць другія агні.

Сьпяшайцеся, брацьці, расою халоднай
Ваш твар выразьлівы абмыць
І дух той гаючы палёў, нівы роднай
У грудзі чым больш захапіць.

Але памятайце: на вашым сумленьні
Ня сплачаны доўг векавы:
То доўг прад народам, то доўг разуменьня,
Якое зачэрпалі вы

З народнага скарбу душы самабытнай
 І з скарбу яго мазалёў:
То ён працавік наш, то ён, старажытны,
 На гору вас моўчкі узьвёў.

Гадуе вас поле, што золатам зьяе...
 Пяскоў, нераджайных пяскоў.
Вас корміць сярмяга, што долі ня знае,
 Ня ведае ласкі братоў.

Ідзеце-ж к народу, як добрыя дзеці,
 Ідзеце, злучайце яго
І горкую праўду у вочы скажэце,
 Чаго ён гаруе, чаго?

1921 г.

# МАЁЙ КАХАНЦЫ

Я пайду да яе, да каханай маёй,
Каб ізноў яе голас пачуць.
Няхай думкі мае пабягуць чарадой,
Як чародкамі хмаркі плывуць.

І я волю ім дам, дзе ім люба ляцець,
Як ляталі, бывала, даўней.
Палячу з імі сам, буду песьні там пець,
Каб адчуць сваё шчасьце паўней.

Не скажу толькі я, што мне люба яна
І як добра мне з ёю пабыць,
Бо каханка мая, мая радасьць—сасна,
Што пры лесе, як панна, стаіць.

1922 г.

# ПАХАВАНАЯ МУЗА

Павесіў поэт сваю музу на плоце.
— Ну, муза, прыляж!
Ня тромкне мой палец па звонкаму дроце,
Ня тромкне, шабаш!

Даволі блукалі з табою па сьвеце—
Сьвет жорстак і глух.
Над соньню балотнай мітусіцца сьмецьце
І прокісьлі дух.

Засьні-ж, мая муза, у холадзе жвіру,
На доўга засьні!..—
І муза заснула, і змоўкла там ліра—
І згасьлі агні.

Пад плотам пахована муза поэта,
А сам дзе поэт?
Сьпявае з другою, ці-ж дзіва нам гэта?
Такі ўжо наш сьвет.

Над долам, дзе схована бедная муза,
Шапоча вярба
Ды грэе на сонцы брудастае пуза
Хаўроньня раба.

1925 г.

* * *

Шорхае варожа,
Шворыцца, бы злодзей—
Ходзіць не здарма!
    Цьма мяне трывожыць,
    Ліха на паходзе—
    Ліху імя—цьма.

З хмар навіслых восень
Ніці дожджу смыча
І прадзе, прадзе!
    Хоць-бы неба просінь,
    Хоць-бы цень аблічча,
    Хоць-бы голас дзе.

Так, завязан вузел...
Кім? чыёй рукою?
Чый то пасланец?
    Зьвялі травы ў лузе,
    А ноч грозіць цьмою,
    Калі-ж ёй канец?

1925 г.

## З КАЎКАЗУ

У залатой калясцы сонца,
Вандруе зноў у сьвет дзянёк,
Ня зьмеран шлях яго бясконцы,
Завіты ў сонечны вянок.

Замерлі горы ў тонкай сіні,
Глядзіць, як бог зямлі, Эльбрус,
І патыхае сном пустыні
Яго засьнежаны абрус.

Маўклівы горы, дзіка-немы,
Ня жывяць мысьлі іх чала,
І вісьне мут адвечнай дрэмы,
Як сум хаўтурнага стала.

1926 г.

## ПЫЛ

Уздоўж пяшчанае дарогі,
Дзе гурт авец прагнаў пастух,
Узьняўся пыл, нямы, бязногі.
Паветра, поўнае зьнямогі,
Не скалыхне, стаіла дух.

У проразь хвой, бы здань пажару,
Штось грозіць чырвані рука,
І тоіць лес якуюсь мару.
А цёмны ўсход выводзіць хмару
Ды шле зарніцы здаляка.

Зьнікае месячнік двурогі,
І зоркі хмурацца ўгары.
У шатах боязьні-трывогі
Маўчаць зьнямелыя разлогі,
І ў страсе млее дуб стары.

Эх, не здарма, відаць, зарніцы
Віхрацца ў хмарах, не здарма.
Чакайце, людзі, навальніцы,
Бо перапоўнены крыніцы...
Чарнее ноч, гусьцее цьма.

І толькі пыл адзін, маўклівы,
Бяз страху клопату, наўсхіл,
Плыве, здаволены, шчасьлівы,
Бо што яму той лёс імглівы?
Бо не падзеш ніжэй, як пыл.

Плыве пылок, бы дым-заслона,
І, асядаючы на дол,
Хавае думку затаёна.
Няма тут роднага загона,
Яму чужое ўсё наўкол.

1926 г.

## У НЯВОЛІ

За народ, што пад ярмом
Шыю гне і сьпіну,
Што кляне лёс ціхачом
Кожную часіну;

За народ, што марне схне,
За сьвятое брацтва
Адабралі ад мяне
Усё мае багацтва...

Як за краты я зірну,
Сэрца млее з болю:
Меў уцеху я адну—
Адну толькі волю.

Ды гвалтоўнікі мае,
Ворагі ліхія,
У мяне ўзялі яе,
Адабралі, злыя.

Што-ж? няхай мой вузкі круг,
Няхай я ў няволі,
Толькі-ж ім свабодны дух
Ня стрымаць ніколі!

Толькі думак ня стрымаць,
Не загнаць у клетку...
Будзем разам гараваць,
Думкі, мае дзеткі!

1908 г.

## У ВАСТРОЗЕ

Нудна Сьцёпку за рашоткай,
Нудна, эх, старому!
Плачуць думкі, рвуцца думкі
Сьцёпкавы да дому.

Дома жонка, дома дзеткі...
Бог сьвяты іх знае,
Як жывецца небаракам
Там, у родным краю!

Ходзіць Сьцёпка з вугла ў вугал
Ды зірне ў ваконца.
За рашоткай відно неба,
Хмарак валаконцы.

Эй, хмарынкі! плывяце вы
У старонку тую,
Дзе пакінуў я сямейку,
Хатачку старую!

Ох, паплыў-бы я, здаецца,
Хмаркі, разам з вамі,
Каб на вёску сваю глянуць
Нуднымі вачамі.

Там, далёка, за дамамі,
Разьляглося поле,
Лес, узгоркі і курганы...
Эх, прастор там, воля!

Дзесь у полі дым сінее—
Бульбу люд капае.
Сьцёпка-ж бедны так марнее,
Долю праклінае...

Ляжа Сьцёпка спаць на „нары“,
І праз цэлу ночку
Усё аб роднай вёсцы сьніцца,
Аб сваім куточку!..

Нудна Сьцёпку за рашоткай,
Нудна, эх, старому!
Плачуць думкі, рвуцца думкі
Сьцёпкавы да дому.

1908 г.

## СЬЦЁПКАЎ СОН

Рана Сьцёпка абудзіўся
І ляжыць—ня сьпіцца:
Сон яму такі прысьніўся—
Толькі падзівіцца!

Быццам жыта сеяць вышлі
Ў поле пры дарозе—
Сьцёпку нават зышло з мысьлі,
Што ён у вастрозе.—

Поле сонцам скрозь заліта,—
Шырыня, раўніна!
Глеба тлуста, сакавіта—
Чорназем ды гліна.

Не дакінеш проста вокам
Да суседзкіх межаў,
А на лузе іх шырокім
Што ні стог, то вежа!

І суседзі тут у полі
Ходзяць з карабкамі,
Сеюць жыта на прывольлі,
Рэжуць дол плугамі,

Робяць гоні і разоркі...
Ветрык ціха вее.
Трохі воддаль, на прыгорку,
Вёска іх чарнее.

З-за сялянскіх хат адметна,
Між гумён, адрынак,
Пазірае так прыветна
І Сьцёпкаў будынак...

Углыбіўся Сьцёпка ў мары,
Думцы ўвесь аддаўся,
Пра астрог забыў, пра нары,
Дзе ўсю ноч валяўся.

Тут ён целам, там—душою,
Там, у родным полі,
Дзе хадзіў ён за сахою,
Дзе пазнаў нядолю.

Ды забыта ўсё ліхое,
Усё, што дух смуціла,
Засталося дарагое,
Што так сэрцу міла.

Але зараз расьсьвітала,
Нудны дзень вярнуўся.
Сон і мары—ўсё прапала,
Як астрог ачнуўся.

1908 г.

## НОЧ У ВАСТРОЗЕ

Ноч глухая. Ціха.
Густа легла цьма.
Дрэмле чутка варта,
Цяжка сьпіць турма.

Страшнай зяўрай зьмеяй
Карыдор глядзіць,
І тужліва лямпа
Сьвеціцца, дрыжыць.

Обак карыдору
Камэры відны.
Пад замкамі дзьверы,
З кратамі яны.

І, здаецца, сьцены
Цiснуцца цяжэй,
Гнуць яны і душаць
Ўсё мацней, мацней.

Нудна, бы ў магіле.
Глуха, бы ў труне,
Толькі часам крыкне
Арыштант у сьне.

Мо' Кабека[1]) здасца,
Спраўніка прысьніць,
Ды „параша“ эрэдка
Глуха загрыміць.

1908 г.

[1]) Старшыня Віленскае судовае палаты.

* * *

Сьціхнуў шум на карыдоры,
Ня чутно гаворкі,
На замок запёрты крэпка
Цесныя каморкі.

Ня зьвіняць жалезным звонам
Цяжкія кайданы...
Злосна, дзіка пазірае
Гэты дом паганы!

Шчыльна целам чалавечым
Паўкрываны „нары"
Цісьнуць грудзі арыштантам,
Томяць бедных, мары.

Сон трывожны ў сьпёртым дусе
Не дае спакою.
Эх, як марна прападае
Жыцьцё маладое!

Сьвеціць лямпа нудным бляскам,
А вакол ціхутка!
А праз краты не спаткаеш
Вокам нічагутка.

Хіба бляск убачыш бледны,
Як ліхтар мігае
Ды за вуглам вецер вольны
Песьню засьпявае.

1908 г.

## МАЦІ

Няпрыветна цераз вокны
Ночка пазірае.
Ціха ў хаце. Уся сямейка
Сьпіць, адпачывае,

Натрудзіўшы добра рукі,
Натаміўшы плечы,
Толькі маці з верацёнцам
Туліцца пры печы

Ды прадзе, прадзе кудзельку.
Скача верацёнца,
А за ім густыя цені
Бегаюць на сьцёнцы.

* * *

На камінку гарыць корчык,
Злотам іскры скачуць.
За аконцам вецер ходзіць,
Глуха вербы плачуць.

Зябнуць вербы на марозе,
Прытуліўшысь к стрэсе,
Сьнегам вецер сыпле ў дзьверы,
Ходзіць шум па лесе...

І пад гэты шум трывожны
    Думае старая,
А ўсьлед думкам неспакойна
    Вецер падпявае.

* * *

І ўсё ўстала прад вачыма
    Беднае кабеты:
Маладыя дні дзяціны,
    Дзявочыя леты,

Радасьць жыцьця і нягоды,
    Сваркі, трасяніна,—
Ўсё, чым жыцьце напаткае
    Ў цяжкую часіну,

Ўсё прыпомнілася беднай,—
    Горка, цяжка стала,
Галаву на бок схіліла,
    Прасьці перастала.

* * *

Вось і муж усплыў на думу—
    Рана сьмерць скасіла!
Дробных дзетак ён пакінуў—
    Без пары магіла!

Жыў ён бедна. Спадзяваўся
    Свой прыдбаць куточак,
Хату вывесьці, зямелькі
    Прыкупіць шматочак,

Бо агоркнуў хлеб батрацкі,
Жыцьце пад'ярэмна...
Ды ня вышаў з-пад няволі,
Біўся век дарэмна!

* * *

Гасьне корчык на камінку,
Пацямнела ў хаце,
Поўнач пеўні пракрычалі,
Але ня сьпіць маці.

Цягне нітку. Вераценца,
З рук упаўшы, грукне,
Ды нясьмела, як убогі,
Ў дзьверы вецер стукне.

Думкі думку падганяюць,
Не даюць спакою,
Усё лятаюць над кабетай
Нуднай чарадою.

* * *

Уздыхнула цяжка маці,
Аб сынку гадае,
Што ў вастрозе, ў паняверцы
Кару адбывае.

І за што? У толк ня возьме
Бедная кабета
Ні законаў гэтых мудрых,
Ні парадкаў сьвету.

Вецер вые за вугламі,
У коміне галосіць.
Куды толькі думка тая
Матку не заносіць!

Зябнуць вербы на марозе,
Глуха лес гамоніць.
Думка думку выклікае,
Думка думку гоніць.

1908 г.

## НЯВОЛЬНІЦТВА

Глуха стала посьля буры,
Нудна цягнуцца дзянькі.
Не праб'ецца крык праз муры,
Крэпкі ржавыя замкі...

Нечым сэрца распацешыць,
Нечым дух разварушыць,
Як часамі боль прысьпешыць,
Голас волі закрычыць...

Эх, як цесна тут, як дзіка!
Не зайздросна наша часьць:
Не пачуюць твайго крыку,
Ніхто помачы ня дасьць!

1909 г.

## ХМАРЫ

Хмары, хмары, што па небе
Ходзіце гарамі!
Каб меў крыльле, паляцеў-бы
Я на волю з вамі!

Паляцеў-бы ў край той родны,
Дзе так сэрцу міла,
Дзе я вырас, дзе мне радасьць
Моладасьць суліла.

Паляцеў-бы ў луг, дзе Нёман
Бераг точыць, мые,
Дзе гамоняць з ветрам-бурай
Дубы векавыя,

Дзе над Нёманам старая
Пахінулась хата,
Дзе так многа пылу ўлетку,
Дзе пяскоў багата.

Паляцеў-бы да курганаў,
Што стаяць маўкліва,
Да узгоркаў, дзе вясною
Зелянеюць нівы.

Ой, панёсься-б з вамі, хмары,
Я ў той лес цяністы,
Дзе ўдыхалі-б мае грудзі
Хвояў пах смалісты!

Хмары, хмары, што па небе
Ходзіце гарамі!
Чаму я ня маю крыльляў?
Чаму я ня з вамі?

1909 г.

## ГУСІ

Зоры далёкія, зоры бліскучыя
Ціха гарацъ над зямлёй.
Крыкі знаёмыя, тоны пявучыя
Льлюцца вячэрняй парой.

З поўначы-холаду, сівера бурнага
Гусі на поўдзень ляцяць,
З неба далёкага, стэпу лазурнага
Смутна прашчаньне крычаць.

Дзікія гусанькі, птушачкі вольныя,
Весьнікі скорай зімы!
Хочацца з вамі мне ў стэпы прасторныя.
К сьвету і сонцу ад цьмы.

Толькі-ж падрэзаны крыльлі свабодныя.
Моцна пільнуюць мяне
Дзьверы акутыя, сьцены халодныя,
Краты жалеза ў вакне.

1909 г.

## СЬМЕРЦЬ АРЫШТАНТА

Праз астрожны двор закрыты
Два людцы маўчком ідуць,
З тоўстых дошак сьпешна зьбіты
Цесны гроб яны нясуць.

І ня звоняць, не сьпяваюць,
Нікагутка ня відно.
Два плячы той гроб трымаюць,
Бы й ня гроб, а бервяно.

Арыштант! Сярод дарогі
Сам сябе ты адзваніў:
Кайданамі твае ногі
Суд „ласкавы“ надзяліў.

Арыштант! Яшчэ ты ўчора
Сам сабе і адмаліў,
У гроб цесны сваё гора
Ты глыбока палажыў.

Арыштант! І ў роднай хаце
Жыць з сям'ёю не далі.
Месца й там табе ня хваціць,
Як ня стала на зямлі.

А сканаў ты, як сабака.
Знаць ня будуць сваякі,
Як пражыў ты, небарака,
Перадсьмертныя дзянькі!

Арыштант! Цябе зарыюць,
Не заплачуць над табой,
Хіба мо' ваўкі завыюць
У піліпаўку зімой.

Арыштант! Твае магілы
Крыж ня будзе вартаваць,
Адзін вецер свае крылы
Над ёй будзе разьнімаць,

Калі ўвосень раззлуецца
І памчыцца ў сьвет гуляць.
З языка ня раз сарвецца—
Хтось павесіўся, відаць!—

Арыштант! Ня будуць дзеткі
Знаць, дзе татка іх спачыў,
Бо ня будзе і заметкі,
Дзе ты костачкі злажыў.

1909 г.

## ПІСЬМО З АСТРОГУ

— Напішы мне, калі ласка,
Пісямко да хаты!
Піша з дому мне Параска,
Што сын здан ў салдаты...

Охо-хо! — Пракоп ўздыхае
Джургае чупрыну,
А ў руках пісьмо трымае
І канвэрцік сіні.

Просіць шчыра грамацея,
Нават шапку скінуў.
Сам Пракоп пісаць ня ўмее—
Дзе? Ў бядоце гінуў!

Гадаваўся на мякіне,
Жыў з худобай змалку.
Смак жыцьця пазнаў на сьпіне,
Высах сам у палку.

А нарэшце, вось, папаўся
Ў сьпісак арыштанскі,
А за што? Нібы зьбіраўся
Падпаліць лес панскі!

— Што-ж табе пісаць старэнькі?
— А пішы, нябога!
Жонка, сын мой даражэнькі!
Шлю паклон з астрогу.

Сэрца мне баліць, і вас я
З думак ня спускаю.
Кожны божы дзень і час я
Дом успамінаю.

Жонка мая дарагая!
Ты ня скрыўдзь Івана.
Калі грошай не хватае,
Папрасі ў Сьцяпана.

Няхай Сьцёпка не баіцца—
Аддамо з падзякай.
Хлопцу-ж трэба хоць акрыцца,
А ня йсьці сабакам.

Спраў кажух яму і боты,
Выпраў, як і людзі.
Дай з сабою колькі злоты—
Весялейшы будзе.

Калі корму досыць маеш,
Падкармі больш сьвінку,
Мо' якую захаваеш
На вялікдзень шынку.

А калі на грош няхватка
Або корму мала,

Закалі і з поўдзесятка
Хунтаў прышлі сала...

Сын мой! снасьці рыбаковы
Добра ты прыпратай—
Згодзяцца, а венцер новы—
Маеш час—залатай.

І яшчэ, мой сын, прашу я
Човен кінь ў адрыну,
Няхай вецер ня сьвідруе,
Няхай так ня гіне.

Усё, што можна, захавайце,
Пакуль я вярнуся.
Нераток стары аддайце
Міхалю з Габрусем.

Кнігі ўсе, апроч псалтыра,
Вы аддайце Грышку,
Хай сабе чытае шчыра,
Бо ён любіць кніжку.

Дарагі сын! перад здачай
Да мяне зайдзі ты,
Можа болей і ня ўбачу,
Не пачую, дзе ты.

Не маркоцьцесь, не бядуйце—
Дасьць бог спосаб новы,
Што-ж ты зробіш? пагаруйце...
Будзьце ўсе здаровы!

1909 г.

## КАТАРЖНІКІ

Цесны дворык. Няпрыгожа!
Дзьверы пад замкамі,
У тры сажні агарожа,—
Глуха, як у ямі.

Толькі бразгаюць кайданы
Дзікім бразгатаньнем.
Звон пакуты, звон паганы
Аддае стагнаньнем.

Будзіць звон той боль у сэрцы,
Смутак наганяе.
Цяжка, цяжка ў паняверцы!
Ой, доля ліхая!

* * *

Сьвеціць сонца, жарам пыша,
Ў небе – ні хмурынкі.
Лёгкі ветрык сад калыша,
Гойдае галінкі

Ды жартліва задзімае —
Накурыць, напыліць,

Пух угору падымае,
Красачку пахіліць.

Прабяжыць, і ціха стане...
Зьвякаюць кайданы.
Ў гурт сышліся катаржане,
Від іх змардаваны.

Вось на лаўку яны селі,
Голавы спусьцілі.
Думкі моцна іх здалелі,
Сэрца засмуцілі.

Не згадаць іх дум маўклівых,
Дзе яны іх носяць—
Мо' гуляюць там, на нівах,
А мо' волі просяць.

Катаржане—хлебаробы,
Дзеці вёсак, поля.
Таго бойка з-за худобы
Прывяла ў няволю,

Той з суседам пасварыўся,
Ў таго зяць паганы,
А той з братам як дзяліўся,
Зарабіў кайданы,

Той за нораў свой сярдзіты,
Ці за лішак жару...
Гэта—цёмны люд забіты,
Беднаты ахвяра.

* * *

Што за думкі—не згадаю—
Цьмяна іх гаворка.
Адно толькі добра знаю:
Горка людзям, горка!

1909 г.

## ПОКЛІЧ

Гэй, чуеце, хлопцы? Дзе вы, скажэце?
Разьвеяны ветрам па беламу сьвеце.

Па ўсіх вы куточках маўчком распаўзьліся,
А думак даўнейшых сваіх адракліся.

Забылі вы песьні пра вольную волю,
Змаганьне за шчасьце, за лепшую долю.

Адсьпевана песьня, бясьсьледна прапала,
Бо хлеба скарынка язык вам зьвязала.

І нізка прыгнула вас першая бура—
Ацесьліва, хлопцы, знаць ваша натура.

І тыя ярэм'і, што вы асьмяялі,
Вы зноў-жа пакорна на шыі паклалі!

Ці чуеце, хлопцы?.. Адказу ня маю
І вечны пакой вам ў вастрозе сьпяваю.

1909 г.

## КАЛЯ ПАРОГА

Прад жалезнымі дзьвярамі
Цёмнага астрога
Жджэ кабетка, хоча бачыць
Сына дарагога.

Ох, сынок! Сядзіць, саколік,
За сьцяной высокай
У нядолі, паняверцы
І нудзе глыбокай.

Хоць-бы глянуць адзін момант
На яго, здаецца!
Горка беднай, цяжка матцы,
Сэрца яе рвецца.

І стаіць яна, чакае
Доўгія гадзіны...
Злыя людзі—іх ня чэпіць
Смутак мацярыны!

Хмурна. Золка. Вецер-сівер
Да касьцей праймае,
І нясьмела падыходзіць
Да дзьвярэй старая,

Мокры клунак загарнула
Хусткаю старою.
Асьцярожна—стук у дзьверы
Ззяблаю рукою.

Загрымеў ключом турэмнік,
Глянуў у ваконца.
— Што табе? спытаў сярдзіта.
— Ой, маё ты сонца!

Ці ня можна бачыць сына?
Я здалёк, саколік!
„Апазьнілася, старая—
Прыхадзі ў аўторак,

А цяпер ідзі да дому
І—бывай здарова!—
І аконца загрымела
Злосна і сурова.

Божа! колькі прастаяла,
Колькі часу ўбіла,
Процьма грошай на дарогу
Марна загубіла.

Што рабіць? Хто ёй парадзіць
Хто ёй растлумачыць?
Да каго пайсьці маліцца,
Каб сынка пабачыць?

Жаласьць к сэрцу падступіла—
Бедная кабета!

Сын даўно, даўно ў вастрозе—
Ужо трэце лета!

Забастоўку зрабіў хлопец
У двара у пана,
І за гэта да астрогу
Прывялі Сьцяпана.

Пастаяўшы, зноў аб дзьверы
Рукі абівае:
У начальства знайсьці праўду
Думае старая.

У наплечніках начальнік
Падышоў к варотам.
— Мой паночак! мой любенькі!
Ой, маё ты злота!

Дазволь сына мне пабачыць!
Ня тутэйша, пане...
Пашкадуй мяне, старую!
Мокну спазараньня...

Бачыш—дождж халодны сее
Спорна і аблажна...
Паглядзеў начальнік зьверам
І сказаў: „ня можна".

Цяжка, цяжанька ўздыхнула
Бедная жанчына—
Налучылася такая
Ей, відаць, часіна.

І зірнула ў жалю маці,
Скрыжаваўшы рукі,
На муры, на дом пакуты
І нязьмернай мукі.

І ніхто не адгукнуўся
На яе жаданьне,
Без адказу засталося
Горкае пытаньне.

1909 г.

## З ТУРМЫ

Цесна мне тут, горка мне!
Просіць сэрца волі.
Плачуць думкі па вясьне,
Хочуць лепшай долі.

Гэй, ты, лес, хваёвы бор,
Бор густы, высокі!
Неба сіняга прастор,
Стэп яго шырокі!

Я да вас хачу, каб збыць
Ўсе мае нягоды
І свой голас разам зьліць
З песьнямі прыроды.

Люб мне поўдзень, цішыня
Раніцы прахладнай,
Крык у небе каршуна
Ў высі неагляднай,

Луг шырокі над ракой,
Долы і паляны.
Рвуся к вам я ўсёй душой,
Родныя курганы!..

Гэй, ты, лес, зялёны бор,
Бор густы, высокі!
Неба сіняга прастор,
Стэп яго шырокі!

1909 г.

## ДУМКІ

Дрэмлюць думкі цяжкай дрэмай,
Поўныя трывогі.
Ім на сьвет з магілай немай
Не прабіць дарогі.

Ім няма дзе прыхінуцца,
Хоць і сьвет зьлятаюць,
А часамі, як ачнуцца,
Жаласна ўзыграюць.

І смуткуюць сэрца дзеткі,
Што мы тут ў няволі,
Што пасохлі жыцьця кветкі
Без пары, бяз долі,

Што мы гора збыць ня ў сілах,
Крыўды не зваюем,
Што быць можа да магілы
Долі не пачуем.

Ня смуткуйце-ж вечарамі,
Думкі, гора дзеці!
Хоць мне цяжка, толькі з вамі
Не адзін я ў сьвеце.

Цьмяна жыцьце, ні іскрынкі,
Ў кут яго забіта,
Толькі-ж з вамі, сірацінкі,
Гаманю адкрыта.

1910 г.

* * *

Як хацеў-бы я
Па палёх прайцiсь
Ï упiцца iх
Пахам, росамi!

Паглядзець, зiрнуць,
Як жыта растуць,
Як калосiкi
Налiваюцца.

Я хацеў-бы знаць,
Як аплацiцца
Праца трудная
Рук мазолiстых,

Як багаты рост
Ярыны ў палёх,
Селянiн-ральнiк
Повен дум якiх?

Цi ён смуцiцца,
Пазiраючы,
Што труды яго
Так марнуюцца?

Ці ён цешыцца,
Ў полі ходзячы
Па межах, жытох
У сьвяты дзянёк,

І пад шум хлябоў
Ціха моліцца,
Каб дазволіў бог
Ураджай сабраць.

І каб бура-град
З навальніцаю
Не пашкодзіла
Працы радасьці?

Толькі-ж мне няма
Сьветлай волечкі,
І з турмы ніяк
Мне ня вырвацца.

1910 г.

## НА АСТРОЖНЫ ЛАД

Зноў павеяла турмою,
Згасьлі ў змрочнасьці агні,
І гаротнай чарадою
Нудна цягнуцца нам дні.

Зноў абшарпаныя сьцены,
Зьвяга цяжкіх ланцугоў,
І няма ніякай зьмены
Ў гэтым холадзе муроў.

Ды няхай тут плача доля
Бяз уцехі і надзей:
Тым даражэй будзе воля,
Час сьвітаньня весялей.

1910 г.

* * *

Дні ідуць за днямі,
Уцякаюць годы,
А за намі сьледам
Цягнуцца нягоды.

Тчом мы павуцінку
Радасьці і шчасьця,
А павее вецер
Холадам нянасьця,

І парвуцца ткані,
Разьляцяцца прахам,
І прад невядомым
Зноў стаіш са страхам.

* * *

Знаць, ужо спрадвеку
Доля нам такая:
Ліха знойдзе ўсюды,
Шчасьце-ж уцякае.

1910 г.

## ПЕСЬНЯ НЯВОЛІ

Як лёгкі дым, як тонкі пар,
Расталі ў небе кучы хмар.

Ой, гладзь нябёс далёкая,
Крыштальная, глыбокая!

Як моцны гук, прызыў вясны
З тваёй пачуўся вышыны!

Прастор, прастор і воля там,
Але ня нам яны, ня нам!

Запёрты мы, прыдаўлены,
І краты нам прыстаўлены.

Высок, высок паркан-сьцяна,
Нам песьні волі ня чутна.

Ня нам вясна, ня нам прастор—
Нам мур сыры, нам цесны двор.

Гады ў няволі адцьвітуць...
Ня плач, душа, вясну забудзь!

1910 г.

## Ў ВАСТРОЗЕ

Аб чым тут мне думаць у гэтай няволі,
У гэтай магіле-турме,
Дзе радасьці сэрца ня знае ніколі,
Дзе жыцьце праходзіць у цьме?

І ўзыдзе і зойдзе высокае сонца,
І месяц устане ўгары,
І зорак далёкіх скрозь хмар валаконцы
Так ціха гарацъ ліхтары,

І белыя хмаркі кудры ваўністыя—
Сваю тонкарунную ткань—
Ціха расьцелюць па небе па чыстаму
І віснуць над сьветам, як здань...

Бяздоннае неба, неба раскрытае
Прасторам і воляй жыве
І жыцьце няўдалае, жыцьце разьбітае,
Простор гэты неба заве.

Ўскалышуцца думкі, як лісьце на дрэве,
Калі на іх вецер дыхне,
І сэрца ўскіпае абурана ў гневе,
І душу маланка жахне.

І горка, так горка, нявесела стане,
І смутак на сэрца спадзе.
А жыцьце праходзіць, а моладасьць вяне
І вяне бяз толку ў нудзе...

Аб чым-жа тут думаць у гэтай няволі!
У гэтых крывавых мурох?
Эх, каты вы, каты народнае волі!
Нашто збудавалі астрог?

1910 г.

## Ў ВАСТРОЗЕ ВЯСНОЮ

Сьціхлі песьні зімняй буры,
Вее цяплынёю,
Ўскалыхнуўся лес пануры,
Зашумеў вясною.

Як-бы спуджаныя козы,
Пазьбягалі хмары.
Плача зімка, льлюцца сьлёзы,
Ажываюць яры.

Скора поле, лугавіны
Ў зелень убяруцца,
Жураўлі з чужой краіны
З крыкам пранясуцца.

Хмары ўстануць, і пяруны
Гучна загамоняць,
А ў турме тут сэрца струны
Жаласна зазвоняць.

І ўздыхнеш, ўздыхнеш глыбока
Над жыцьцём разьбітым,
І пачуеш адзінокім
Ты сябе, забытым.

1910 г.

## З АСТРОГУ НА ВОЛЮ

Бабёр устаў даволі рана,
Яшчэ і зьмены[1]) ня было.
Ўсю гэту ноч ён спаў пагана,
А колькі думак праплыло,
То аднаму Бабру вядома
Ды тым пахілкам-бедаком,
Хто, як Бабёр, ня мае дому,
Ня мае ў людзі выйсьці ў чом.
Глыбока спаў астрог праклятый,
Ї сам Алейчык[2]) спачываў
Ї сьніў цэйхауз і бушлаты[3]),
Падвал, дзе шум ён падымаў,
Дзе ён адзін парадкі знае,
Усіх аматар ашукаць.
Бабёр тымчасам з нар спаўзае,
Ідзе „парашку“[4]) „прывітаць“.
Ў „ваўчок“[5]) зірнуў скроз карыдору,
Пачухаў сьцёгны і жывот...

---

[1]) Зьмена астрожнай стражы звычайна рабілася ў шэсьць гадзін раніцы і ў шэсьць гадзін вечарам.
[2]) Алейчык—прозьвішча стар. надзірацеля.
[3]) Бушлат—арыштанская адзежа з грубага сукна.
[4]) „Параша“—начны цабэрак для арыштантаў.
[5]) „Ваўчок“—дзірка ў дзьверах.

Ох, гэты сьверб! ох, вошы-гора!
Калі вы пойдзеце на звод?
Бабёр хоць, праўда, з імі зжыўся
І хоць ня надта іх кахаў,
Але й ня надта бараніўся
І ім жыцьця ён ня ўціскаў.
Бабру ня раз хто назаляе:
„Глядзі, Бабёр—унь вош паўзе!“
„Паўзе? то што? бо ногі мае!
Ня зьесьць, нябось, не загрызе!“
Прысеў Бабёр на цьвёрдай нары[1])
Знайшоў акурак, закурыў
І нізка голаву спусьціў—
Яму свабода горай кары!
А сёньня тэрмін быць на волі.
Куды-ж ён дзенецца, бядак?
Ідзі, лаві ты ветра ў полі—
Ён гэтай волі знае смак!
А сіл няма, ня служаць ногі,
Ня хоча слухацца рука,
Адно і ёсьць, што біць парогі,
Узьдзеўшы торбу жабрака.
Хоць-бы вясна, ну, інша справа:
Усё-ж тады куды лягчэй,
А йсьці на зіму—ня цікава—
Ідзі ды з голаду калей...

[1]) „Нары“—палок, дзе сьпяць арыштанты.

Панік Бабёр, як сіраціна,
Нудзьга пад сэрцам завіла...
Ох, воля, мілая часіна!
Відаць, і ты ня ўсім міла.

1910 г.

## У ТУРМЕ

Сонца ўстане, сонца зойдзе,
Дзень заменіць ночкі цьма,
А над намі чорнай хмарай
Вісьне цесная турма.

Птушкі вылятуць на зіму,
Птушкі зноў ляцяць сюды,
Мы-ж марнуемся ў вастрозе,
Трацім лепшыя гады.

Дні мінаюць, дні праходзяць,
Летам зьменіцца зіма,
А мы сохнем і марнеем,
Нам тут радасьці няма.

1910 г.

* * *

Сохну марна я ў вастрозе,
Дарма трачу сілы.
Рвецца дух мой на свабоду
З гэтае магілы.

Шкода хаткі мне старэнькай
З латанай страхою,
Што схілілася над Нёмнам
Горкай сіратою.

Шкода мне зялёнай нівы,
Што шуміць у полі,
Тога дуба, што над рэчкай
Песьціцца ў прывольлі.

Шкода мне гаёў цяністых
І лугоў простору,
Дзе пад ветрам ходзяць хвалі
Травянога мора.

Шкода сьветлай ручаінкі
Ў берагох пяшчаных,
Што як срэбра мкне-бруіцца
Паміж гор, курганаў.

Шкода вёсак запусьцелых,
Дзе ральнік гаруе,
Дзе зімою вецер вые,
Кудаса шнуруе...

Гэта—вобразы краіны
Беларусі роднай...
Край ты наш! Як міл ты сэрцу,
Цёмны край, галодны!

Ды ня век я тут гарую,
Дачакаю волі
І пачую ў родным краю
Песьні лепшай долі.

1910 г.

## З БОКУ АД ЖЫЦЬЦЯ

Там, на волі, за сьцяною,
Людзі чуюць, што жывуць,
І з вясёлай сумятнёю
Вечароў калядных ждуць.

У хаце ўся сям'я зьбярэцца
За сталом каля гаршка,
І прыветней мігатнецца
Бляск у вокнах бедака.

Ад каляд па вадахрышчы
Будуць весела гуляць,
Вечарамі на ігрышчы
Бубен, скрыпка зазьвіняць.

І сягоньня, яў і ўчора,
Пойдзе ходарам сьцяна...
Хоць на момант сьціхне гора
Перад чаркаю віна.

Крык і гоман, шум і песьні...
Як разыдуцца ў мароз—
Не адно рабро там трэсьне,
Не адзін стаўчэцца нос.

П'юць, гуляюць там багата,
Шум, ігрышчы, куцярма,—
Словам, там усім вам сьвята,
Толькі мне яго няма.

Тыя-ж краты, тыя-ж дзьверы
Дзень і ночку пад замком,
Той-жа звон, ліхі бяз меры,
Рэжа сэрца, як нажом.

Што-ж? гуляйце! Безгалоўе
Бутлям, скваркам, куляшу!
Я-ж за ваша ўсіх здароўе
Пайку хлеба упішу.

1910 г.

## ВЯЧЭРНІЯ ХМАРКІ

Сонейка заходзіць,
І кладуцца цені,
І плывуць хмурынкі
Ў ціхім задуменьні.

Белыя валокны
Сонейкам заліты.
Вольны ім дарогі,
Сьцежкі ім адкрыты.

Хмаркі залатыя!
Вы—прастору дзеці,
Ходзіце вы вечна
Па ўсім белым сьвеце.

Праплывеце-ж, хмаркі,
І над родным краем,
Над сялянскім полем,
Над зялёным гаем,

І заплачце, хмаркі,
Дробнымі сьлязамі
Над мужычай нівай,
Над яго лугамі.

Загрымеце громам,
Стаўшы цёмнай хмурай,
Толькі-ж не пабеце
Жыта градам, бурай,

Хмаркі залатыя,
Сонца, неба дзеці!
Вы прывет мой шчыры
Ў вёску занясеце.

1910 г.

## ПЕРАД СУДОМ

Не ў салдаты выпраўляе
Маці свайго сына,
Не на службу ў двор да пана,—
Едзе ў суд хлапчына!

Знае маці—не жартуюць,
Судзяць судзьдзі строга,
Хоць сынок яе ня злодзей,
Не зрабіў нічога:

Не забіў, не абясславіў,—
О, не, не! крый божа!
Гаварыў ён—ну, што ў гэтым?—
Што так жыць ня гожа,

Жыць і гнуцца. Прад багатым
Поўзаць чарвякамі,
Што даволі ўжо цярпелі
Доўгімі вякамі,

Што даўно пара за розум
Бедным людзям ўзяцца
І парадкаў справядлівых
Трэба дабівацца.

А каб справіцца з няпраўдай,
З крыўдаю, з бядою,
Дык націснуць трэба людзям
Дружнай грамадою...

Конь запрэжан, ўсё гатова.
Смутная дарога!
Ня суліць яна старэнькай
Добрага нічога.

Горкі жаль акрыў кабету
І здушыў ёй грудзі.
Ў кут забілася і плача,
Каб ня зналі людзі

Яе гора і трывогі
І жальбы па сыну.
— З богам, сынку! хай дае ён
Добрую часіну!—

Рушыў конік. Заскрыпелі
Весьніцы гаротна.
Азірнуўся бедны хлопец
Горка і маркотна.

На дварэ стаіць матуля,
Галавой кіўнула,
А сама сьлязу буйную
Рукавом змахнула.

Вось і поле. Конік трусіць.
Вецер падзімае.

Азірнуўся хлопец—хата
З вока прападае.

Ĭ абцёр ён няпрыметна
Жаласьці сьлязіну.
Эх, відаць, ня скора ўбачыць
Родную хаціну!

1910 г.

## У ЗІМНІ ВЕЧАР

Загудуць вятругі ў полі,
Загалосяць, зашумяць,
Белым пылам задымяць,
Ды засьцелюць гоні-ролі,
Каб у холадзе-няволі
Рунь зялёную прымяць.

Ноч распусьціць хмары-косы,
Лён-кудзелю распляце,
Сядзе паняю ў куце,
А мароз белавалосы
Пойдзе ўсюды на ачосы
У лядзяным халаце.

Эх, узьнімецца тлум дзікі!
Загудуць кусты, лясы
На ўсе тоны-галасы.
Самі зьявяцца музыкі,
Баль наладзіцца вялікі.
Сьнег засьцеле абрусы.

А ты сядзеш, мая маці,
Ніці доўгія сукаць,
Думкі-ж повесьць будуць ткаць

Аб сынку, тваім дзіцяці,
Што ў няволі жыцьце траціць,
Бо хадзіў волі шукаць.

За акном сваёй чаргою
Вецер будзе вар'яцець,
Пухавую плесьці сець.
Ты-ж агорнешся тугою,
Як ноч гэтая смугою,
Сэрца будзе плакаць-млець.

1910 г.

## КАЛЯ АКНА Ў ВАСТРОЗЕ

Высока, высока ў вастрозе акно,
І крэпка жалезам абіта яно!

А глянеш за горад—і вочы гараць,
Ад далі шырокай іх трудна адняць.

Ня выказаць, брацьці, як воля міла
І журба якая на душу лягла

Па вольнаму жыцьці, па шыры палёў,
Па роднаму шуму зялёных лясоў!

Эх, меў-бы я крыльле, свабодна-б махнуў
І поўнымі-б грудзьмі я волю ўдыхнуў,

І там-бы на момант душою спачыў,
І слаўную-б песьню аб волі зложыў.

Ды крэпкі аковы, а крыльляў няма
І сэрца мне душыць, як камень, турма.

1910 г.

## ПЕРАД ДАРОГАЮ

Іх надоўга асудзілі,
Цяжка пакаралі,
Праз нягоду жыцьця з вёсак
У вастрог загналі,

Адарвалі ад сямейкі
І ад родных дзетак,
Гоняць ў катаргу пажылых,
Маладых кабетак.

І ня знаюць, небаракі,
Бедныя кабеты,
Куды доля іх загоніць,
Дзе іх пройдуць леты:

І ня знаюць, як сустрэне
Трудная дарога
Пад канвоем па этапах
У вастрог з астрога.

На іх тварах смутак цёмны,
Гора напісана:
За няма што жыцьцё зьнікла,
Ў гразь яно ўтаптана!

Задуменьне чорнай ценьню
    На твары іх зьляжа,
Горам цяжкім, горам горкім
    Сэрца апяража.

Ўсё прапала для гаротных,
    Жыцьцё ў прах разьбіта,
А над будучынай цёмнай
    Ночка ўсьцяж разьліта.

І даўнейшае жыцьцё іх
    У думках пранясецца,
І ад гэтых думак сэрца
    Жалем скалыхнецца.

Вёска ўстане перад імі,
    Хаткі дарагія,
Ўсе куточкі, дзе прабеглі
    Леты маладыя.

Ўспомняць родных, сваіх кроўных,
    Блізкіх і далёкіх.
А ці ўспомняць іх там дома,
    Бедных, адзінокіх?

І часамі хто з іх песьню
    Горка засьпявае.
Гэта песьня жалем-смуткам
    Сэрца спавівае.

„Я памру“—адна заводзіць:
    „Мяне пахаваюць

Як папала, у чужым доле
Труп мой закапаюць.

Знаць ня будзе ніхто з родных,
Дзе мой прах струхлее...“
Горкім жалем, цяжкім смуткам,
Ад тэй песьні вее...

Ох, як многа такіх песень
Чуецца ў дарогах!
Колькі сілы, жыцьця колькі
Нішчыцца ў астрогах!

1910 г.

## ВЕРНЫЯ СЯБРЫ

Я быў адзін. Браты і сёстры,
Сябры пакінулі мяне.
У глыбі душы, на самым дне,
Я смутак чуў сьмяртэльна-востры.

У час вялікай адзіноты,
Калі мяне забылі вы,—
О, мілы мой адзін адно ты
Са мною быў гарадавы!

Ды як Мікодым за Язусам,
Памоцнік прыстава здалёк
Ішоў, глядзеў, бы кот за трусам,
Як „ніжні чын“ мяне валок.

Прывалаклі, ў вастрог упхнулі,
У гэту чортавую пасьць,
І тут яны так уздыхнулі,
Як-бы цяжару ўзяўшы часьці.

І разьвітаўся я тут з імі,
Памысьліў з роспачы-нуды:
„Няхай-жа водзяць вас сьляпымі,
Як вы вялі мяне сюды“.

1911 г.

## БЕЛАРУСАМ

Устаньце, хлопцы, устаньце, браткі!
Устань ты, наша старана!
Ужо глядзіць к нам на палаткі
Жыцьця новага вясна.

Ці-ж мы, хлопцы, рук ня маем?
Ці-ж нам сілы бог ня даў?
Ці-ж над родным нашым краем
Промень волі ня блішчаў?

Выйдзем разам да работы!
Дружна станем, як сьцяна,
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана!

1906 г.

## ВОРАГАМ

Багачы і панства,
Нашы „дабрадзеі!“
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!

І на грозных межах
Часаў пераходных
Сьмела вас пытаем,
Прагных і нягодных:

„Чыімі рукамі
Вы дабро зьбіралі?
На чые вы сьлёзы
Дабрабыт куплялі?

І за што, скажэце,
Палкамі нас білі,
Секлі-каталі,
Голадам марылі?

Ласкаю-ж чыёю
І з чые вы працы
Замкі збудавалі,
Пышныя палацы?

Усё ад нас забралі,
А што нам далі вы?
Чые нудна ў полі
Так марнеюць нівы?

Вузенькаю ніцьцю
Чые йдуць палоскі?
У чым то жыце
Многа так бярозкі?

Каму адвялі вы
Пусташы, каменьне?
Хто з свайго засеву
Не зьбярэ насеньня?

Чые гумны, хаты
Гнуцца сіратою?
Чые сьлёзы льлюцца
Кожнаю парою?

І чыя скацінка
Сохне ў пустым полі
І як гаспадар іх
Гіне у няволі?

Чыя песьня-скарга
Ў неба йдзе дакорам,
К месяцу і сонцу
І к далёкім зорам?

Багачы і панства
І вы, ўсе брадзягі!

У бок з дарогі, каты!
Бойцеся сярмягі!

Ўжо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Сьлёзы праліваюць.

1906 г.

## МІКАЛАЮ II

Дзесяць год Мікола думаў,
Ї прыдумаў ён Думу.
Пасадзілі разам з панам
Янку, Грыца і Кузьму.

Пасядзелі нядзель з восем,
Узлаваўся Мікалай—
Дэпутатам даў па карку,
Ўзяў ды Думу разагнаў.

Да чаго-ж мы дажыліся!
Эх, падвёў ты нас, царок!
Каб табе даў бог на старасьць
Лапці, торбу і мяшок.

А ні хлеба, а ні солі,
Ні купіць нам, ні прадаць...
Эх, ня вер цару ніколі—
Хоча зноў нас ашукаць.

1907 г.

## КІНЬЦЕ СМУТАК

Што вы, хлопцы, пахмурнелі?
Ці каго вы пахавалі?
Ці няшчасьце так здалела,
Што нуда апанавала?

Плюньце, хлопцы! засьпявайма,
Каб аж вокны задрыжалі!
Ва ўсе грудзі загукайма,
Каб і думкі паўцякалі!

Ці-ж мы будзем вечна гнуцца,
Апускаць ў нядолі рукі?
Няхай сьлёзы больш ня льюцца,
Няхай нас ня знаюць мукі!

За работу жыва, жыва!
Каб нас доля ня ўсчувала,
Каб ня сохла наша ніва,
Каб нуда нас больш ня гнала!

1907 г.

## МАЛЕБЕН

Як сьвет наш зьявіўся,
Людзьмі засяліўся,
Ад сівога веку
Ня знаў чалавека,
Магу пабажыцца,
Магу залажыцца,
Каб ён так маліўся.

Адслужым малебен.
Ці-ж цар нам патрэбен?
Патрэбен ён, братцы,
Як прус у валадцы,
Як у мосьце дзірка,
Як з гразі зацірка,
Як скула-балячка.

І меў ён адвагу
Зваць цароў у Гагу,
Каб вайны не вялося,
Крыві ня лілося.
Ці-ж гэта ня сьмешна —
Зрабіць так пасьпешна?
Ці чулі брадзягу?

10

Хваліўся бясконца,
Як шоў на японца,
З мікады сьмяяўся
Ды ўсім выстаўляўся
І кідаў мільлёны,
Пасылаў „іконы“—
Бяз флёту астаўся!

Вось цар занудзіўся,
Што сын не радзіўся.
Беглі-шлі гадочкі,
Радзіліся дочкі.
Раздаў цар мільлёны
На цэрквы, на звоны—
Сына прасеце, папочкі!

Трасьліся ўсе муры,
Папы лезьлі з скуры
Кадзілам махалі,
Чыталі, сьпявалі,
Трывожылі бога—
Ня вышла нічога:
Усе модлы прапалі.

Рэскрыпт цар надрэпаў,
Зьявіўся тут Трэпаў
Для ўсіх нечакана,
Як воўк з-за кургана.
І стаў ён пасрэднік,
Радзіўся насьледнік,
Але ці Раманаў?

Вось ліха наперла,
Крамала ня зьмерла,
Ня жыць з залатоўкі,
Пашлі забастоўкі,
Узьняўся люд убогі,
Пасталі дарогі—
Царь бачыў вяроўку.

Пусьціў ён у . . .
Падбег Вітта вёрткі,
І Рыман, і Міны,
Розныя скаціны...
Нагайкі, расстрэлы
І лес штыкаў цэлы—
Цягнуць людзей на асіны.

Пануй. Мікалае,
Часіна такая,
Трымайся прастола,
А будзе вас гола.
Акончан малебен,
Ты нам не патрэбен,
Другі і апошні Мікола!

1908 г.

# КОНСТЫТУЦЫЯ

Констытуцыю далі,
Адчынілі дзьверы
І... ў астрог нас павялі
І таўкуць бяз меры.

Вітта нам дакляраваў—
Помніце?—свабоду.
Потым хвігу паказаў
„Вернаму“ народу.

Зашумелі аб зямлі
Ў Думе дэпутаты,
Дык па карку ім далі
І пашлі да хаты.

Архірэй наш Міхал
Тураўскі і Мінскі
Чорнай сотні толькі міл,
Бо робіць па сьвінскі.

Ганчакамі па Русі
Прыставы лятаюць,
Нас скуюць—кусі, кусі!
Як зайцоў страляюць.

Разьвялося стражнікоў,
Як якой жывёлы,
Ад іх плешак і шнуроў
Чырванеюць сёлы.

Колькі ўсякіх строгіх мер—
Канца няма краю!
Констытуцыю цяпер,
Як пяць пальцаў, знаем.

1908 г.

## „АСАДЗІ НАЗАД!“

Дрэнна маё жыцьце,
Ўсё ідзе ня ў лад,
І крычаць мне ўсюды:
„Асадзі назад!“

Божа ты мой мілы!
Б'юся я, як гад,
Толькі-ж дзе ні ткнуся—
„Асадзі назад!“

Помню я жаніўся,
Добры быў мой сват.
К дзеўцы нас паткнулі—
„Асадзі назад!“

Дзеўка была важна,
Ды сусед—Кандрат
Ногу мне падставіў—
„Асадзі назад!“

Трапіў раз у горад,
Быў якраз „парад“,
Лезу я наперад—
„Асадзі назад!“

У засеках пуста,
Жыта выбіў град,
— Дай, старшынька, „ссуды“
— „Асадзі назад!“

Я з капейкі зьбіўся,
Зарабіць я рад.
— Ці няма работы?
— „Асадзі назад!“

Сам я растрапаўся,
Лезе з плеч халат.
— Памажэце, людзі!
— „Асадзі назад!“

Сына свайго ў людзі
Вывеў-бы Ігнат.
— Вось мой сын, паночкі!
— „Асадзі назад!“

Ў вёску хлеб прыслалі,
Там галодных шмат.
Пруся я з мяшэчкам—
„Асадзі назад!“

Галаву я маю.
Быў-бы дэпутат.
„Цэнзу“ ты ня маеш,
„Асадзі назад!“

Праўда, што таіцца,
Быў і мой чарод:

Два разы на жыцьці
Вышаў я ўпярод.

Ўзбунтаваў я вёску.
Ой, быў цяжкі год!
Прыяжджае прыстаў:
— Выхадзі ўпярод!

Гэта ты, мярзавец
Ўзбунтаваў народ?
Гэй, гарадавыя!
Даць яму ўпярод!

1908 г.

## ПЕРШАЕ ЗНАЁМСТВА

Помню, помню тую ночку!
Не забуду я той час.
Пеў салоўка у садочку,
Зор цягнуўся ў небе пас.

Выплыў месяц круглы, поўны,
Падрумянены, як блін.
Цярушыўся мрок бязмоўны,
І п'яніў мяне язьмін.

І прышла ты нечакана,
Сама, строгая, прышла!
І са мною аж да рана
Тую ночку правяла.

Загадала першым дзелам
„Рукі ўгору“ мне падняць
Ды кішэні аглядзела,
Нават кіцель мусіў зьняць

Распарола мой сяньнік ты,
Разьвярнула мой бярлог,
І лісты мае ад Вікты
Паляцелі за парог!

І ўвесь час на тваім твару
Не схадзіла строгасьць, злосьць,
І, сказаўшы мне слоў пару,
Запытала: „Пашпарт ёсьць“?

Ты набрала маіх кніжак
Два портфэлі і прыпол,
А каб быць знаёмым бліжай,
Напісала пратакол.

1909 г.

## СТАРОМУ ПАРАДКУ

Ой, стары парадак,
Як ты назаляеш!
Тузаеш ты, ломіш,
Скуры з нас зьдзіраеш.

Зьдзекуешся з нас ты,
Гнеш ты нас бясконца,
З-за цябе ня бачым
Ні дабра, ні сонца.

Каб табе-ж ніколі
Ня было спакою,
Каб цябе ганялі
Бруднаю мятлою!

1909 г.

## ШКОЛЬНАЯ РАБОТНІЦА

На краю сяла глухога
Паміж ліп разложных
Прытуліўся дом убога,
Як жабрак набожны.

Пахілілася гарожа,
Ў дзірах дах зіяе...
Няпрытульна, няпрыгожа
Школка выглядае!

Насьцеж зяўраюць вароты.
Чуць ліпяць і дзьверцы.
Дзьве бярозкі, як сіроты,
Гінуць ў паняверцы.

Ціха. Ночка. Нічагутка
Навакол ня дрогне,
Хіба толькі дах ціхутка,
Як стары, застогне.

Вёска сьпіць—пара глухая,
Позная часіна.
Ня сьпіць толькі маладая
У школцы дзяўчына.

Сьвеціць лямпа перад ёю,
Ціха, бы ў магіле.
Многа працы ёй з дзятвою,
Каб разьняць ім крыльле,

Каб разблытаць з павуціны
Разумок дзіцячы,
Ды ня страшны для дзяўчыны
Трудныя задачы.

Хоць над ёю цьма глухая
І вісіць абухам,
Ды дзяўчына маладая
Ня падае духам.

Вучыць дзетак з дня ў дзянёчак,
Кніжкі ім чытае,
Раскатурхаць разумочак
Дзеткам памагае.

Рада радасьцю дзяцінай,
Смутна іх бядою.
Не нацешацца дзяўчынай
Дзеткі маладою.

Так у цяжкай тэй рабоце
Траціць дні дзявочы,
Каб галоце і бядоце
Цьму расьсеяць ночы.

Сьцішна ў вёсцы. Думка-смута
Часта душу томіць,

І часамі боль зло-люта
У сэрцы загамоніць,

І агорне журба нейка,
Няміло нічога,
І ня знойдзеш чалавека,
Чулага, жывога...

Поп і пісар—чужаніцы—
Іх свая дарога:
Рвуць, як могуць, ад дурніцы,
Мужыка сьляпога.

Цяжка беднай ёй часамі,
„Власти“ насядаюць,
Поп і земскі з пісарамі
Скрыва паглядаюць

На дзявочыя стараньні,
На яе работу,
Толькі-ж вера ў сілу знаньня
Ёй дае ахвоты.

Цёмна ў вёсцы, беспрасьветна,
Цяжка, цяжка школе,
Ды праз школу няпрыметна
Прыдзе шчасьце-воля.

Не загінуць край і людзі,
Пасынкі народу,
Калі ў краю гэтым будзе
Зьяць прамень свабоды.

1909 г.

## НЯШЧАСНАЯ МАЦІ

У кожную ночку, як сьвет заціхае
  І чуць загарыцца зара,
Халодныя нутры зямля раскрывае,
  З тых нутраў выходзіць мара.

Ідзе яна ціха, як ночка, панура,
  Ідзе пад крыжы-растанцы,
Стаіць нярухома, выглядвае хмура—
  Усе аглядае канцы.

І далей бяз шуму ідзе на балоты,
  Ідзе, не крануўшы расы,
І плачуць ёй сьледам аеры, чароты,
  І ціха шумяць ёй лясы.

Абходзіць магілы, напрыклад садзіцца,
  І сёлы вартуе яна.
Па роднаму краю цянюе-снуецца
  Заўсёды панура, адна.

* * *

І людзі гавораць, як часта чувалі
  А поўначы плач у палёх,
І часта жанчыну адну сустракалі,
  Гаротную, ўсю ў рызманох.

І чуткае вуха той плач улавіла:
„Ой, дзетанькі!“ — плача яна:
„Ці-ж я затым вас на сьвет нарадзіла,
Каб век векавала адна?

Каб крыўдзілі людзі і жыць не давалі?
За што-ж вы зракліся мяне?
За што вы матулю жывой пахавалі?“
Так скардзіцца ўсё ў цішыне.

1912 г.

## НА ДАРОЗЕ

Ня крычы, пан: „Прэч з дарогі!“
Што з таго, што я мужык?
А ўжо гнуцца, як убогі,
І я, бачыш ты, адвык.

Не адзін ты гонар маеш,
І ў мяне ён трохі ёсьць,
Дык дарма ты, пан, гукаеш—
Я табе больш не „пся косьць“.

Мы калісь былі ня тыя,
Панавалі тады вы,
А цяпер гадкі другія—
Спаў ланцуг той векавы,

На якім вы нас трымалі.
Ведай гэта і ня злуй:
Мы вас доўга „шанавалі“,
Цяпер ты нас пашануй.

1912 г.

## ВЯСНОЮ

Вясёлыя людзі—снуюць і гамоняць,
Відаць, і ў іх сэрцы вясна,
І горкія думкі галоў іх ня клоняць,
Ім доля прыхільна, красна.

Цаны куску хлеба ня знаюць шчасьліўцы,
І галава іх аб тым не баліць,
Як будзе багатая пожня на ніўцы,
Як заўтрашні дзень перабыць;

Ці будзе прытулак зьвярэджаным плечкам,
І ногі куды панясуць
Іх цела худое: ці к мору, ці к рэчкам,
І рукі каму прададуць,

Свабодныя рукі з патрэсканай скурай.
Шчасьлівец ня знае таго,
Як гнецца галеча прад чорнаю бурай
Няўдалага жыцьця свайго.

А хто гэта ходзіць адзін стараною?
Чаму вы ня рады яму?
Чаму ён ня з вамі? Чаму галавою
Так нізка панік ён? чаму?

Шчасьлівыя людзі, як хвалі, што ў моры:
Іх вецер узьніме—бягуць
І тое, прад чым пакланяліся ўчора,
Пры ветры другім аплююць.

1912 г.

## ЯК І КАЛІСЬ

Быў малы я, думаў часта,
Як дадуць мне чосу:
„Пачакайце, і на вас я
Прыпасу атосу!

Дайце толькі акрыяць мне,
У гадкі вабрацца!“
А пакуль што ўсім старэйшым
Мусіў пакарацца.

Я тымчасам падрастаю.
Аддалі вучыцца.
Не дагодзіш настаўніку,
І пачне сварыцца!

Але добра, калі сваркай
Сойдзе завіруха,
Ды ў тым гора, што настаўнік
Часта трос за вуха.

„Ну, пастой-жа! жыў ня буду,
А за тыя зьдзекі
Не дарую, толькі-б вышаў
З-пад твае апёкі!“

Так за лаўкаю памысьліш,
Узяўшы вуха ў жменю,
І цішком кулак сьціскаеш,
Сунуўшы ў кішэню,

Ды цярпіш ды зносіш крыўды,
Помсты час жадаеш.
Час ідзе, ў залежнасьць—ліха
Болей пападаеш.

Вось я вырас, і пад носам
Вусы высядаюць,
А мяне навокал чубяць,
Клёваюць, ўсчуваюць.

Накіпела ў сэрцы гневу,
Злосьці поўны косьці.
Ня стрываў я, разгарнуўся—
Я-ж вам, ягамосьці!

Пачакайце-ж, калі гэтак!
То-ж я ня кусаўся!
Годзі крыўды! досыць зьдзеку!
Ўзяў ды ўзбунтаваўся

Супраць ўлады і парадкаў!
А то-ж я уломак?
Хай сабе на пагляд шчуплы
І ня так-та ёмак.

Ускіпела тая ўлада—
Гоняць у тры шыі.

„Ведай, гад, па чым хунт ліха!
Помні—ты ў Расіі!“

Трэсьлі, трэслі, калацілі,—
З жалю хоць разьбіся.
Ды ў асторг нарэшце садзяць—
Там, моў, схамяніся.

Вось за кратамі сяджу я.
Горш мяне ўсчуваюць,
З аднэй камэры ў другую
З сяньнікам ганяюць.

Я іду, куды мне кажуць,
Ды бубню сам сьціхла.
„Пачакайце! адсяджу я.
Перабуду ліха!“

Ценем крыўда йдзе за мною
Аж да сёй часіны,
Кулак згорнуты ў кішэні,
Як і ў дні дзяціны.

І даюць мне, як і колісь
Запраўскую чосу.
Што рабіць у век патомкаў
Зашпурнуць атосу?

1912 г.

## БУДЗЬ ЦЬВЁРДЫ

Ты ня гніся, брат, ніколі
Траўкаю пахілай:
Сам пружыны сваёй долі
Выкуй ўласнай сілай!

Бо хоць кажуць, што з уклону
Не баліць галоўка, —
Не зважай: з ярма-прыгону
Вышла гэта слоўка.

Не прасі, не спадзявайся
Ты на дапамогу:
Сам з нягодамі змагайся,
Сам прабі дарогу!

Хоць памогуць табе людзі
Адшукаць дарогі,
А саб'ешся, зноў ты будзеш
Абіваць парогі.

Ня лісьціся к сільным, дружа,
Зельлейкам-бярозкай,
Бо ня выдзеш век з пад гужу,
Страціш вобраз боскі,

І ў людзей ты гонар страціш—
    І цябе зракуцца:
Лепш змагацца вольным, браце,
Чым цярпець ды гнуцца!

1912 г.

## СТАРЫЯ ПЕСЬНІ

Скарга нязьменная, гора нязбытае...
Голь змардаваная, голь неакрытая,
Бедная, цёмная голь!

Чуецца ўсюды тваё нараканьне,
Нездаваленьне, жальба і стагнаньне—
Душу ахватвае боль.

Стогне з табою і даль сіратлівая,
Ціш гэта немая, доля маўклівая,
Гоні, разлогі палёў...

Чым-жа нацешыць вас, людзі пакутныя?
Як разагнаці вам думкі ўсе смутныя?
Гора-ж ня сьціхне ад слоў!

1914 г.

## ВЕЦЕР

Гэй, вецер заходні з далёкай краіны!
Аб чым ты размову так сумна павёў?
Мо' журбы нагналі ліхія ўспаміны,
Ці злыя здарэньні апошніх дзянькоў?

Маркотна з табою! Сьлязьмі і стагнаньнем
Гаворка твая аддаецца ў палёх.
Над кім ты смуткуеш глухім прычытаньнем,
Надгробнаю песьняю плачаш ў платох?

Тугою бязьмернай ты даль затуманіў,
Вясёлае неба ў жалобу абвіў.
Гэй, вецер заходні! Каго ты аганіў?
Над кім ты заплакаў? так жаласна ўзвыў?

Па кім ты спраўляеш памінкі-хаўтуры,
Ігрышча сіл чорных, начніц, ведзьмакоў?
Ці ты разьдзімаеш вялікую буру,
Буру ўсясьветную, плач сірат, удоў?

Гэй, вецер разгульны! ты—вечны дарожны,
І вечны выгнаньнік, бы кім закляты!
Заўсюды маркотны, заўсюды трывожны,
Спакою ніколі ня ведаеш ты.

1914 г.

## НА ЛУЗЕ

Вецер паўднёвы ў лузе квяцістым
Калыша траву-сенажаць.
Сіваваронкі над дубам вячыстым
Лятаюць і звонка крычаць.

Бусел клякоча ў гнязьдзе над хваінай,
Што колісь расьпляжыў пярун.
Даль неаглядная, стэп ясны, сіні
Замоўклі, як жалаба струн.

Гожа зьвіваецца ў лозах зялёных,
Бы срэбра жывое, рака.
Ня згледзіш, як летась, у яе ўлоньнях
Ні плытніка, ні рыбака.

Ходзіць той ветрык па лузе шырокім
І ціха на сонцы дрыжыць.
Мусіць ён шэпча кустом і асокам,
Каб нейкую скаргу злажыць...

Зьяюць на лузе машэст, аксаміты
І ткань залатая шаўкоў.
Толькі-ж над лугам жалоба разьліта
І сум сакаўных дубнякоў.

Быццам пытаюць мурог і мятліца,
Краскі і ўся сенажаць:
„Дзе вы, сяляне? дзе? Час касавіцы,
А вас ўсё няма, ня відаць?“

1915 г.

## НОВАМУ ГОДУ

Хто нам скажа, хто згадае,
Чым нас новы год спаткае
І парадуе нас чым?

Год мінулы злым прыдаўся:
Тросься сьвет і садрыгаўся,
Апавіты ў смаль і ў дым.

Наш набытак зьнішчан прахам.
Неашчадным, страшным махам
Сьмерць кранулася зямлі.

На сіротах нашых, нівах,
Замест снопікаў шчасьлівых
Густа косьці палеглі.

За сяўцоў былі гарматы,
Замест зернятак—гранаты
Шчодра сеялі ў той год.

Нязьлічонымі крыжамі
Сьлед адзначан, дзе з сьлязамі
Бег разбураны народ.

Гора Белу Русь спаткала,
Ў сьвет далёкі люд пагнала.
Цяжак быў мінулы час.

Чым-жа новы год спаткае?
Ці аціхне бура тая?
Чым парадуе ён нас?

1915 г.

## ПЕРАД БУРАЮ

Сінь і глыб бяз конца-краю.
Ціш і згодачка сьвятая
Неба, землю абнялі.

Сонца зранку жарам пыша.
Ветрык лісьце чуць калыша,
Вее чуць паўзьверх зямлі.

Лес і поле з збажыною,
Апавітыя смугою,
Задуменныя стаяць.

І сярод цішы нясьмела
Над зямелькаю зьнямелай
Сталі хмары вынікаць,

Ды так ціха, так пужліва,
Нібы зданкі або дзіва
Невядома, скуль ўстае.

Шырыць сонца клуб іх белы
І маланак-громаў стрэлы
Ім на страх зямлі куе.

А зямля як-бы замлела,
Нават дуб стары нясьмела
Зрэдка лісьцем павядзе.

Змоўклі ўсе вакол абшары,
Бо замысьлілі штось хмары...
Ой, знаць, бура загудзе!

1916 г

## НА РЭЧЦЫ

У бераг высокі, дзе лозы растуць,
За хвалямі хвалі бягуць,

І ўсхліпвае рэчка ў пяскох залатых,
Як маці па дзецях сваіх,

І ў беразе вербы злучаюць свой сум
У гэты нярадасны шум.

І неба маркотна, і хмары плывуць,
Іх сьлёзы на землю цякуць...

Прыбіты вадою на срэбраны гак,
Ляжыць невядомы бядак,

Ваяка-салдацік ад дому ўдалі...
Яму не знашлося зямлі!

Эх, ты небарака! то знаць па табе
Усё вецер сумуе ў вярбе,

І рэчка ў хвалях-жалобе бяжыць
І смутак імглісты ляжыць...

Ды рэчка зацiхне, i вецер засьне,
І ласкаю неба зiрне,

І ўсё сапачыне, спазнае час свой.
А людзям цi будзе спакой?

1916 г.

## НА ЧУЖЫНЕ

Край далёкі, край чужэнькі
Каля гор Урала!
Ты зжыла век маладзенькі,
Сьмерць тут напаткала.

Хто-ж пакажа матцы роднай,
Бежанцы пахілай,
Крыж над ямаю халоднай,
Доччынай магілай?

Хто раскажа, як ты млела,
Як душой знывала,
Як на сьвеце жыць хацела,
Бо жыла ты мала?

Рвалась сэрца к родным гоням
Птушкай лёгкакрылай,
К сьветлым рэчкам, ціхім тоням
Белай Русі мілай.

Толькі-ж выпаў не па сіле
Крыж табе, дзяўчына,
І ўлажыла спаць ў магіле
Жорсткая чужына.

І нікому невядомы
Будзе лёс твой горкі,
І ня ўчуюць сьпеў знаёмы
Родныя пагоркі.

Ты сканала, і разрухі
Больш ня будзеш бачыць.
Хай хоць ветры-завірухі
Па табе паплачуць.

1916 г.

## ПОЛЕ

Зарасьлі вы, межы, ў полі
Дзікім зельлем, палыном!
Гаспадар на вас паволі
Раніцой ня йдзе з канём...

Не хапіла сіл жаночых
Глыбей зямлю заараць,
На загончыках сірочых
Травы сталі красаваць.

Вось і трэце даў бог лета,
А няма гаспадароў,
Ня чутно цяпер да сьвету,
Як даўней, іх галасоў.

Дзе-ж вы дзеліся, сяляне,
Што нідзе вас ня чуваць?
Ды баяцца на пытаньне
Межы свой адказ даваць.

Сіратою глядзіць поле,
Сумна ў даль бягуць шнуры.
Хто-ж адкажа, штс за доля
І дзе іх гаспадары?

І трывожна шэпчуць гоні,
На пытаньне шэпчуць мне:
„Ці пабіты, ці ў палоне,
Ці скалечаны ў вайне“.

1916 г.

## ВОРАГАМ

За што лілася кроў людзкая?
За што гібеў і гінуў люд?
Гібеў набытак ўсяго краю
І пакаленьняў гінуў труд?

І бег народ, бы ў час паморку,
Закрыўшы вочы, ў белы сьвет,
І толькі дым ўздымаўся горкі,
Крыжы азначвалі іх сьлед.

А колькі сьмертак дзетак мілых
На вашым сумленьні ляжыць?
Пануе ціш на іх магілах,
І край разбураны маўчыць.

І вы цяпер рукамі ката
Гатовы згоду даравацъ?
Але ці можна у вас брата,
Скажэце, Каіны, прызнаць?

Вам не па сіле груз цяжэрны
Вайны, што самі вы ўзьнялі,
Зьнішчэньне, мах яе бязьмерны,
Згінота цяжкая зямлі!

Ня вы дасьце народам сьвята,
Ня вам пажар вайны заліць!
Дык рукі прэч, забойцы, каты!
Ня вам аб згодзе гаварыць!

1916 г.

## ДУМКІ САЛДАТА

Разлучыўся салдат з сваёй роднай сям'ёй,
Разьвітаўся ён з домам сваім.
Знае лес баравы, дзе дыбаў ён ступой,
Што за думкі віліся над ім.

Замірала душа, млела сэрца яго,
Засьцілаліся вочы сьлязьмі.
Кінуў жонку адну і дзяцей... на каго?
Хоць ты з жалю разьбіся вазьмі.

Разважае бядак, дом ня йдзе з галавы,
Пахілілася з гора яна.
І, здавалася, з ім плакаў лес баравы,
Быццам думка была ў іх адна.

У нязнанай далі мы дажджэмся чаго?
Прападзеш, бы й на сьвеце ня жыў.
І ня скажа ніхто, дзе магіла яго,
Дзе ён косьці свае палажыў.

Скрозь прагалін лясоў былі хмаркі відны,
У сінім небе іх нікла руно.
І, здавалася, з ім смуткавалі яны,
Як-бы гора было ў іх адно.

Эх, за што? ну, за што, адкажэце вы мне,
Я павінен другіх зьніштажаць,
Ці калечыць сябе ў гэтай дзікай вайне
І пад кулі свой лоб падстаўляць?

Вы, што селі ўгары, як вас, каты, назваць?
Не шкада вам нявінных людцоў.
Самадурства сваё вы гатовы купляць
Міліёнамі нашых галоў!

1916 г.

* * *

Люд стогне, гаруе пад цежарам меча,
Скаваў яго сэрца гарачае лёд.
Адкрыты дарогі табе, чалавеча,
На поўдзень, на захад, на ўсход.

Ты вольны, нябога, ідзі, куды хочаш,
Ты можаш ярэм'е пабіць.
І чуткія вушы, арліныя вочы
І сэрца ты маеш любіць.

Вы-ж зьбіліся з сьцежкі, вас ноч ахапіла,
Арліныя вочы патухлі у вас,
Вас водзіць у полі нячыстая сіла,
Агонь ваш у сэрцы пагас.

Аб чым-жа сумуеш, народ неспакойны?
Акінь сваім вокам прыгожую даль,
Ахамяніся, будзь волі дастойны,
І радасьць пазнаеш, адкінеш ты жаль.

1917 г.

## ДА ПРАЦЫ!

Браты! вялікая дарога
Чакае нас і родны край—
Жніво настала, працы многа,—
Навукі семя засявай!

Сьвятло нясеце—ў мроку дрэмле
Наш мілы край, наш родны кут.
Хай уваскрэснуць нашы землі,
Няхай асьветліцца наш люд.

Хай будзе спор нам у прыгодзе!
Ня царскі біч, ня панскі хам,
Хай будзе лад ў сваёй гасподзе
Ствараць народ-уладца сам.

1917 г.

## БЕЛАРУСКАМУ ЛЮДУ

Змоўкні ты, сьціхні, песьня пакуты!
Заварушыся, наш край!
Люд беларускі! рві свае путы,
Новую песьню сьпявай!

Дружна, згодна станьма сьцяною—
Доля ня прыдзе сама,
Воля ня зойдзе к нам староною,
Збоку дарог ёй няма.

Люд, праканайся: толькі мы самі—
Долі сваёй кавалі!
Годзі-жа, досыць панукаць намі,
Гнаць з нашай роднай зямлі!

Нам паганятых болей ня трэба—
Будзем мы жыць без паноў!
Самі вы дбайце лепей пра неба—
Скажам мы так да ксяндзоў!

Хіба забудзем мы тыя межы,
Што правадзілі бяз нас?
Раны глыбокі, ох яшчэ сьвежы!
Помсты агонь не пагас.

Нас падзялялі—хто? чужаніцы,
Цёмных дарог махляры.
К чорту іх межы! к д'яблу граніцы!
Нашы тут гоні, бары!

Будзем мы самі гаспадарамі,
Будзем свой скарб ратаваць!
Годзі тэй крыўды! ў ногу з братамі
Пойдзем наш край вызваляць.

Родны вы сэрцу нашаму, гмахі
Лесу, лугоў і палёў!
Досыць ўсчувалі нас паны-ляхі,
Ведаем ціск маскалёў...

Змоўкні-жа, сьціхні, песьня пакуты!
Заварушыся, наш край!
Люд! вызваляйся, рві свае путы,
Новыя песьні сьпявай!

1921 г.

## ВОДГУЛЬЛЕ

Ці коска зазвоніць у час касавіцы,
Ці песьню дзяўча запяе,
Ці неба зазьяе ў агнёх бліскавіцы,
Ці вецер задзьме-зазлуе,

Ці гром гучнабежны пракоціцца ў хмарах,
Ці грукне над лесам пярун,—
Усё водгук знаходзіць у вольных абшарах,
Усё іх дакранаецца струн.

А ты, калі гора каго напаткае,
Ці жальба пачуецца, плач,
Або запануе дзе крыўда ліхая—
На ўсё адгукніся, адзнач.

А радасьць пачуем, надзеі ўзаўюцца,
Каб добрыя весткі падаць,
Няхай тады струны твае засьмяюцца
І песьняю шчасьця гучаць.

1921 г.

## ПАСЬЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

Навальніцы няма,
Навальніца зышла,
Хмары далей паціснулі ў сьвет,
І страхлівая цьма,
Дажджавая імгла
Разам з ёю пашлі ў адзін сьлед.

Хоць грыміць яшчэ гром
І зямельку трасе,
Хоць маланка жахліва гарыць,
Над раўком-капяжом
У пакатай страсе,
Як сьляза, яшчэ кропля дрыжыць,—

Але глухне раскат,
І маланка радзей
Палыхае ў гняўлівых клубкох.
Заспакойся-ж, мой брат,
І глядзі весялей,
Бо сьмяецца ўжо сонца ў палёх.

1921 г.

## СЬВІНЬНІ ПАД ДУБАМІ

(Трохі пад Крылова)

На беларускіх жалудох
Даў способ сьвіньням бог,
Тутэйшым сьвіньням, беларускім—
Ім гэта байка для закускі.
Жыруюць тут, растуць іх трыбухі,
І адкладаецца ў іх сала.
Сьвіньня-ж сьвіньнёю быць не перастала,
І сьвінскія захованы грахі.
Наеліся тут дзёдзькі жалудоў,
Сваіх прыдбалі парасят
І рохкаюць на той-жа сьвінскі лад,
Палёгшы між дубоў.
— Скажы, кума: ну, як нам быць?
Дзе нам дзяцей сваіх вучыць?
І як ім рохкаць тут:
Ці патутэйшаму ці не?
Скажы, імостанька, ты мне,
Бо ўсё-ж нам родны гэты кут—
І гадаваліся мы тут,
Унь там і выган наш і груд,
Балоты тыя і лясы...

— Кума!
Да ў іх на грош красы
Няма!
І што трывожыцца дарма?
Мне прыкра чуць такія галасы!
Я факультэт акончыла сама.
Ня менш, як у карыце,
Сваім лычом капалася ў санскрыце,
І добра знаюся я ў мовах
І ў далікатных розных словах.
Пакінь-жа, мілая, сьмяшыць людзей:
Ну, хто адважыцца псаваць сваіх дзяцей?
Бо як-жа гаманяць тутэйшыя дубы?
Іх голас брыдкі і грубы
І не ачэсаны, слабы,
Ня мілагучны,
Прыдуманы і штучны,
Ні гібкасьці, ні сілы,
Поэзіі і музыкі ні-ні,
Убоства, дзе ні павярні...
О, божа барані!
Мяне ён нудзіць, рве мне жылы!
Як ён агідны! як нямілы!
А гэта „дзе“: гэта „це“
Мне болем адклікаецца ў хвасьце.
І родны кут, ды вось ня мой,
Для віду-ж пойдзеш з ім на шлюб,
А наш „кумір“—Крылоўскі дуб.
Я—маці, мілая, і дзетак хоць зьняволю,
А патутэйшаму і рохкнуць не пазволю!

1926 г.

## СЬВІНАЯ ФІЛЁЗОФІЯ

— Суседка, Чушачка мая!
Што ад Рубашкі чула я!
Вось ліханька яму,
Лісту Дубоваму таму!
Ї ўсё-ж ён, гад, як ёсьць
Пра вашу мосьць
Ї пра мяне і пра другіх расьпісвае ў газэце!
Як цяжка жыць на сьвеце!
Зьвярыны шовінізм, зьвярыная і злосьць,
Ну, толькі-б падкусіць, псякроў яго, псякосьць!
Падумайце, як блазьнец:
Тутэйшасьць нашую асьмейвае ў канец!
Шуміць, як той званец,
Што вяне летам у пракосе.
Такую прыкрасьць слухаць давялося!
Прывёў мяне ў такое абурэньне!..
Напішам хіба абвяржэньне?
— Суседка, мілая кума!
Такіх лістоў дубовых—цьма.
Калі зважаць на ўсю іх плявузготу,
То лепей ногі выпрастаць адразу каля плоту.
Але сьвіньня, сапраўдная сьвіньня,
Ёсьць перш за ўсё сур'ёзная жывёла.

Хватай кусок з-пад самага падолу
І не зважай на крыкі вараньня—
Філёзафам глядзі ты навакола,
І віду не кажы, што пішуць аб табе
І возяць палкаю па сьвінскаму гарбе—
Свіньня павінна быць сьвіньнёю.
Хай лаюць, штурхаюць, таўкуць,—
Ёй гэта не абходзіць ані чуць—
Абы па галаве ня стукнулі даўбнёю.

1926 г.

## БРАТОМ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

(„Грамадаўцам")

Няхай паны ў сваёй дурноце
Мацней сьціскаюць абцугі,
Каб вас душыць у злосным гнёце,
Каб на калючым панскім дроце
Павесіць скарб наш дарагі;

Няхай ксяндзы-жрацы-блюзьнеры,
Падпёршы тылакам аўтар,
Выводзяць панскія намеры
З сьвятых каночаў свае веры,
Каб болей сталася ахвяр;

Няхай шалее гэта зграя,
Няхай чадзіць „сьвяты" дурман,
Каб выбіць з беднага ратая
Прагненьне к волі таго краю,
Дзе ня прышчэпіцца больш пан;

Няхай караюць там сурова,
Каб дух народу загасіць;
Хай „ужонд польскі" слова ў слова
Бярэ прыклады з Мураўёва,
Каб рух спаганіць, ахлусіць;

Няхай „ад мора і да мора“
Жыве ў закручаных мазгох,—
Браты! мінецца ліха-гора.
І панскі шал затхнецца скора,
Бо стукне молат па панох.

1927 г.

## ВОРАГАМ

Яшчэ ня стлеў у полі дрот калючы—
Агідны сьлед зьнішчэньня і вайны—
Яшчэ на могілках буяюць бур'яны,
Дзе тысячы галоў зьляглі ў крывавай бучы,
Яшчэ ня зроўнены накопаныя кручы
І не засеяны аблогі-дзірваны,—
А вы, прыслужнікі драпежнага Ваала,
Зноў вострыце загнутыя дзюбы,
І сьліна пырскае з запененай губы:
Вам трэба кроў—крыві пралітай мала:
Ражном у горле вам сябрына наша стала,
Дзе самі ўладары—нядаўнія рабы.
Ну, што-ж? Пускайце ў ход і подкуп і намовы,
Нацкоўвайце сабак пад граканьне варон,
Але вам ня стрымаць той вольнасьці разгон
І бег яго няўхільны, паступовы,
Што ў пух і прах разьвейвае аковы,
Каб іншы выснаваць парадак і закон!

1927 г.

## А. ЛУЦКЕВІЧУ

(А. Навіне)

Зацïхла лета, засыхалі краскі,
А ў лясох у нашых воўк зубамі ляскаў.

Прала восень ніці, навівала кросны,
А па нашым полі гойсаў вецер злосны.

Пазіралі дзіка цёмныя трушчобы,
А па нашых хатах чуліся жалобы.

Замірала-ж скарга, млелі ў вуснах словы—
Вартаваў нас пільна арол двухгаловы.

Ты-ж, араты дбалы, малады, руплівы,
Вышаў сьмела ўзорваць гоні „Нашай Нівы“.

А ты, сейбіт слаўны, шчыры і сумленны,
Сеяў шчодра поле, родны грунт каменны.

Зарунелі гоні засевам жычлівым,
Толькі-ж ты, араты, ты ці быў шчасьлівы?

Дзяўкалі сабакі, гракалі вароны,
Слугі цемры чорнай расьцягалі плёны.

Шпегі і жандары, вобыскі, бадзяньне,
Па глухіх закутках вечнае туляньне...

Ды арол драпежны з двома галавамі
Не ўсядзеў, скалоўся на тэй Вострай Браме.

Налучылі край наш іншыя два лёсы:
Запалілі ўсход наш залатыя косы,

Дзе ратаі вольна падымаюць ролі,
А на захад зьбегла панская сваволя.

Сеў на Вострай Браме панскі „ожэл“ белы
І дзяўбе, як царскі, чалавечча цела...

Заціхае лета, засыхаюць травы,
А той „бялы ожэл“ прагне царскай славы.

Бедны-ж ты, араты, дружа, сейбіт дбалы,
Сеў табе на раме панскі „ожэл бялы“.

Засеў твой жычлівы забіваюць церні,
Але й „ожэл бялы“ галавой наверне.

1927 г.

## ЗМАГАНЬНІКАМ ЗА КАСТРЫЧНІК

Бушавала бура з сілай нячуванай,
А вы шлі пакорна крокам нястрыманым.

Вар'яцела мора, пеніліся хвалі,
А вы шлі няспынна—вабілі вас далі.

Бухалі гарматы, гукацелі громы,
А вы шлі наперад віхрам—бураломам,

Разьбівалі ковы, векавыя путы,
А на кожным кроку вораг злы і люты.

І было змаганьне, ой, было змаганьне!
Не хацеў стары сьвет страціць панаваньня.

Каледзін, Карнілаў, Колчак і Дзянікін—
Шла навала супраць у шаленстве дзікім.

І каваў кайданы вораг заграніцай,
Ды ніхто ня здолеў той жывой крыніцы.

Ліха, небясьпека ўсюды вас чакала.—
Згінула ў дарозе змагароў ня мала.

А дарога ваша—горы, перавалы,
Але ўсё здалелі раці занядбалых.

Пройдзен шлях пачэсны, трудны і вялікі,
Не зальле яго той шквал шалёна-дзікі.

Што падняць гатовы Чэмбэрлен зацяты—
Кінуты па сьвеце добрыя зярняты.

Вышлі зерні тыя ў шоўкавыя руні—
Праўдай сталі вашы мары аб комуне.

1927 г.

ЗЬМЕСТ

## IV. НА РОСТАНКАХ

Стар.



## V. З АСТРОГУ

## VI. НА ГРАМАДЗКІ ЛАД

Стар.

## Памылка друку

Верш „У няволі“ (стар. 71), самы першы верш разьдзелу „З астрогу“, памылкова трапіў у разьдзел „На ростанках“.

